



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

24 сакавіка 2017 года №12 (1143)


# Белы бусел

## стаў птушкай-сімвалам Вілейшчыны

старонка 2

Фота Наталлі ТУР.



Ад **3 КРАСАВІКА** "Рэгіянальная газета" пераязджае на новае месца:

Маладзечна, Вялікі Гасцінец, д. 143, пакой 518 (5 паверх) у ГЦ "Тройка". Запрашаем у новы офіс!

Кантактныя нумары: (8029) 573-28-47, (8029) 676-84-20







## Студэнтка распавядае, на што хапае ўніверсітэцкай стыпендыі

старонка 3

ТЭМА НУМАРА

# Зацвердзілі птушку, праводзілі ў адстаўку старшыню: пра што гаварылі вілейскія дэпутаты

ВІЛЕЙКА

**Раённы бюджэт, закрыццё вясковых могілак, стварэнне груп пажарных інспектараў па Вілейцы і іншыя пытанні абмеркавалі на 27 сесіі дэпутаты Вілейскага раённага Савета дэпутатаў.**

У раённым бюджэце за мінулы год даходы перавысілі расходы на 859 рублёў 81 капейку, адзначыла начальніца фінансавага аддзела райвыканкама **Алена Чабатар**. Калі параўнаць два першыя месяцы мінулага года з гэтым перыядам 2017, то выплаты падаткаў летась былі значна большыя.

### Белы бусел "абляцеў канкурэнтаў"

Бусел белы ці кнігаўка?

Гэта пытанне дэпутаты раённага Савета абмяркоўвалі найбольш актыўна. Дзве птушкі набралі па 170 галасоў у электронным галасаванні і сталі лідарамі.

Аднак, па словах рэдактара раённай газеты **Сяргея Ганчара**, акрамя электроннага галасавання, было вуснае і пісьмовае. Жыхары раёна тэлефанавалі і пісалі лісты са сваімі прапановамі.

Напрыклад, з ільянскай школы прыйшоў ліст, дзе галасавалі за сініцу. Віляйчанін **Анатоль Капцюг** увогуле прапанаваў чайку, якой не было сярод кандыдатаў.

І ўсё ж большасць удзельнікаў вуснага галасавання выказаліся за бусла. У выніку ён набраў 183 галасы і перамог.

На другім месцы атрымалася кнігаўка, на трэцім, з вялікім адрывам, – чапля.

Дэпутаты зацвердзілі вынікі галасавання.

Па словах Сяргей Ганчара, у рэгіёне ўжо абіралі птушку-сімвал. На Валожыншчыне выбралі зімародка, а ў Мядзельскім раёне – лебедзя-шыпуна.

На думку дэпутатаў, птушка-сімвал у сяброўстве з лагатыпам Вілейкі адыграе станоўчую ролю ў турыстычным і экалагічным развіцці горада.

### Больш пажараў стала толькі ў Ільянскім сельсавеце

Начальнік раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Яхімовіч** распавёў, што за апошнія пяць год колькасць пажараў у раёне знізілася як па горадзе, так і па сельсаветах.

Сумную статыстыку павялічыў толькі Ільянскі сельсавет. Тут у 2015 годзе было восем пажараў, а ў 2016 стала 13. Частыя прычыны здарэнняў – газавыя катлы і печкі.

Па словах начальніка, аддзел па надзвычайных сітуацыях праводзіць агітацыю для таго, каб скараціць колькасць такіх здарэнняў. У горадзе з'яўляюцца банеры і білборды на супрацьпажарную тэматыку.

У сельсаветах створаная назіральная камісія, якая правярае стан пажарнай бяспекі ў дамах вяскоўцаў. Асаблівая ўвага тут да шматдзетных сямей, сямей, якія знаходзяцца ў сацыяльна-небяспечным становішчы, людзей, што злоўжываюць спіртным. Аддзел МНС прапанаваў прыняць рашэнне, каб стварыць такую камісію ў горадзе.

### Зачыняць старыя могілкі

У Ільянскім і Людвіноўскім сельсаветах мяркуюць зачыніць старыя месцы пахавання.

У пачатку вёскі Дварэц каля Ільі ёсць яўрэйскія могілкі. Па словах кіраўніка спраў сельсавета **Вольгі Гаранінай**, апошні раз там хавалі людзей у 1941 годзе яшчэ да вайны. Шмат пахаванняў 19 стагоддзя, на некаторых камянях увогуле не разабраць ні лічбаў, ні літар.

У Людвіноўскім сельсавеце мяркуюць зачыніць могілкі ў Сутоках і Азяровічах. Апошнія пахаванні тут рабілі 15 год таму.

Па словах Наталлі Радзевіч, тое, што могілкі зачыняць для пахаванняў, не азначае, што іх не трэба будзе даглядаць. Работнікі сельсавета павінны будуць прыбіраць там дрэвы, кусты, ставіць плот, касіць траву.

### Музей Івана Лашуткі – вынік уласнай ініцыятывы дэпутатаў

Старшыня Савета расказала пра тое, як ініцыятывы дэпутатаў знаходзяць сваё ўвасабленне ў горадзе і раёне. Летась у лістападзе ў вілейскай школе №3 адчынілі клас-музей паэта, педагога, ураджэнца вёскі Баяры на Ільяншчыне **Івана Лашуткі.**

Гэта была ініцыятыва дэпутатаў **Мікалая Гіро** і **Таццяны Захарыч**.

А дзякуючы ініцыятыве дэпутата сельскага Савета дэпутатаў **Сяргея Гарачава** ў Любані пасадзілі алею ветэранаў.

У Нарачанскім сельсавеце праверылі асвятленне ўсіх населеных пунктаў. У Ільі вырашаюць пытанне пра абсталяванне грамадскай лазні пандусам.

### За малаком прыязджаюць у тры гадзіны ночы

У 170 населеных пунктах людзі трымаюць кароў.

Больш актыўна пачалі здаваць малако дзяржаве ў Даўгінаўскім, Крывасельскім, Ільянскім, Любанскім сельсаветах. А вось у Куранецкім гэты паказчык знізіўся. На думку Наталлі Радзевіч, магчыма, ад таго, што побач горад.

Малако, якое гаспадары здаюць дзяржаве, збіраюць у большасці сельсаветаў індывідуальныя прадпрымальнікі. Калі яны з'явіліся, людзі пачалі здаваць больш малака.

Па словах старшыняў Даўгінаўскага і Нарачанскага сельсаветаў, не зусім зручна тое, што ў некаторыя вёскі малакавоз прыязджае ў 3-4 гадзіны ночы.

### Добраўпарадкаванне тэрыторыі: тут добра, а там дапрацаваць.

Лепшым па добраўпарадкаванні тэрыторыі стаў Людвіноўскі сельскі Савет.

А ў Любані трэба яшчэ працаваць над уездам у вёску. Тут ідзе траса на Мядзел. Па словах старшыні райвыканкама **Віктара Ката**, гэту тэрыторыю павінны даглядаць сельскагаспадарчае прадпрыемства "Новая Любанія" і сельвыканкам.

Вельмі вялікі па тэрыторыі Ільянскі сельсавет. Яго дагледзець не проста. Па словах Наталлі Радзевіч, калі добраўпарадкуюць адну вёску, то адразу бачныя праблемы ў другой. Асабліва недагледжаныя населеныя пункты з боку Віцебшчыны.

У Абадоўцах на месцы былога калгаснага саду распаўсюдзіўся баршчэўнік. Па гэтым пытанні людзі неаднаразова тэлефанавалі "на прамую лінію".

З аўкцыёну прадаюцца будынкі ў вёсках. Плённа ў гэтым накірунку працуюць у Ільянскім і Любанскім сельсаветах. Продаж дае даходы ў раённы бюджэт.

Больш упарадкаваным хочацца бачыць парк у Шылавічах, падзялілася старшыня Савета.

### І ў невялікай вёсцы патрэбны інтэрнэт

Перыядычна старшыня Савета дэпутатаў праводзіла прамыя лініі з жыхарамі Вілейшчыны. Так высвятляюцца актуальныя праблемы.

Жыхары невялікай вёскі Жары звярнуліся да дэпутатаў з просьбай правесці хуткасны інтэрнэт. Супрацоўнікі Белтэлекама правялі работы, знайшлі 29 патэнцыйных карыстальнікаў. Інтэрнэт у вёску правядуць.

На прамой лініі 18 сакавіка віляйчане паставілі пытанне пра стварэнне рытуальнай залы ў горадзе. На думку гараджан, гэта было б зручна для сваякоў памерлых. Наталля Радзевіч лічыць, што варта разгледзець гэта пытанне, пераняць досвед суседняга Маладзечна.

### Лагатып Вілейкі дастойны большага

Лагатып горада выкарыстоўваюць недастаткова актыўна, лічыць Наталля Радзевіч. Яго часткова прадстаўляе на сваіх мерапрыемствах музей. Але на гэтым – усё. На думку старшыні, сюды б мог далучыцца вілейскі рэстаран і размясціць лагатып на сурвэтках, абрусах і посудзе.

Дэпутаты звярнуліся да старшыні райвыканкама з пытаннямі рамонту дарогі на вуліцы 17 Верасня і добраўпарадкавання кар'ера ля вілейскай школы №5. Па словах Віктара Ката, дарогу адрамантуюць, а на кар'ер грошай у раённым бюджэце пакуль няма.

### Наталля Радзевіч сыходзіць у адстаўку

– Гэта маё самастойнае рашэнне, – сказала дэпутатам старшыня Савета. – Прашу вас прагаласаваць і падтрымаць мой выбар.

Пасля таго, як падліковая камісія пад кіраўніцтвам **Таццяны Цітуленкі** палічыла галасы, яны размеркаваліся так: за зыход Наталлі Радзевіч прагаласавалі 23 дэпутаты, супраць – тры.

Па словах Наталлі Радзевіч, рашэнне пайсці ў адстаўку было не простым. Аднак таго вымагаюць асабістыя абставіны. Яна падзякавала ўсім за сумесную працу і папрасіла пакінуць яе ў складзе прэзідыума Савета дэпутатаў, каб завяршыць распачатыя справы.

Наталля Радзевіч кіравала вілейскім Саветам дэпутатаў сем гадоў.

– Спадзяюся, цяпер, калі ў мяне будзе больш часу, з'явіцца магчымасць заняцца маімі любімымі справамі і занятакамі, у тым ліку творчасцю, – падзялілася з прысутнымі дэпутат.




Старшыні Вілейскага райсавета Наталлі Радзевіч дзякуе за працу кіраўнік райвыканкама Віктар Кот. 21сакавіка 2017 года.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# “Аплаціла інтэрнат і тэлефон – і стыпендыі няма”

## Вілейская студэнтка распавядае, як размяркоўвае стыпендыю

ВІЛЕЙКА

**Прыехаць на выхадныя да бацькоў і вяртацца назад з торбамі, напакаванымі катлетамі, закаткамі і салодкім, – маршрут, знаёмы кожнаму беларускаму студэнту.**



Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ.

І бюджэтнікам, і платнікам, якія не маюць падпрацоўкі, амаль немагчыма пражыць у іншым горадзе без дапамогі бацькоў.

Але калі стыпендыя ёсць, то як размеркаваць яе, калі загадзя ведаеш, што і на палову патрэбнага не хопіць? Сваім досведам у гэтай справе дзеліцца **Настасся Збераноўская** з Вілейкі, студэнтка трэцяга курса Інстытута журналістыкі БДУ (на фота).


Фота забяспечанае Настассяй ЗБЕРАНОЎСКАЙ

### “Адмаўляюся ад касметыкі, каб схадзіць на каву”

Стыпендыя ў любой ВНУ залежыць ад сярэдняга бала за навучанне. На журфаку БДУ бюджэтнік павінны здаць сесію без перадачы з сярэднім балам, вышэйшым за 6,0 – тады ён можа разлічваць на мінімальную стыпендыю ў 63 рублі.

– Раней я атрымлівала 83 рублі, – кажа Настасся. – Але апошнюю сесію здала лепей – сярэдні бал атрымаўся 8. Таму цяпер буду мець недзе на 10 рублёў болей.

Паколькі дзяўчына з'яўляецца сябрам аднаго з грамадскіх аб'яднанняў, то мусіць плаціць штомесячныя ўнёскі. Іх здымаюць адразу з карткі – атрымліваецца тры рублі за семестр.

Амаль палова стыпендыі ідзе на аплату растэрміноўкі за мабільны тэлефон – 36 рублёў 50 капеек.

– Мой стары тэлефон кепска працаваў, таму ўзяла новую бюджэтную мадэль, – тлумачыць дзяўчына. – Цяпер цягам 11 месяцаў мушу выплачваць такую суму. У маі будзе апошні ўнёсак, ура!

Яшчэ каля 27 рублёў у месяц ідзе на аплату пражывання ў інтэрнаце. Пасля гэтых дзвюх трат грошай амаль не застаецца.

– Рэшта ідзе на мабільную сувязь, садавіну, салодкае, касметыку, – кажа студэнтка. – Але гэта ўсё ў невялікай колькасці і самае неабходнае. Часам хаджу з сябрамі ці хлопцам на дні народзінаў ці ў кавярню. Але тады ўжо трэба адмовіцца ад касметыкі, каб купіць падарункі ці каву.

### На трэцім курсе падпрацоўвае амаль палова студэнтаў з групы

У групе, дзе навучаецца Настасся, 27 студэнтаў. Дзяўчына кажа, што ў некаторых атрымліваецца падпрацоўваць, але збольшага не па спецыяльнасці. Каля дзесяці аднагрупнікаў працуе ў крамах ці гасцініцах, і толькі тры – у журналісцкай сферы.

– У мяне, на жаль, пакуль няма падпрацоўкі, – уздыхае Настасся. – Першыя два гады на журфаку складана: вывучалі тры мовы і тры літаратуры адначасова, вельмі шмат трэба было чытаць. Так што і часу не было б на працу. А цяпер шукаю падпрацоўку, і не важна, ці па спецыяльнасці. Трэба зарабляць грошы.

Пры гэтым амаль уся група складаецца з бюджэтнікаў: 20 чалавек з 27. Сёлета будучыя журналісты спадзяюцца атрымаць вольны дыплом: з-за таго, што навучанне на журфаку скарацілі з пяці да чатырох гадоў, сёлета чакаецца двайны выпуск. Будуць выпускацца і тыя, хто вучыўся чатыры гады, і тыя, хто пяць гадоў быў студэнтам.

### “Без дапамогі бацькоў я не змагла б”

Як і большасць студэнтаў, Настасся не абыходзіцца без дапамогі сям'і. Бацькі дапамагаюць і грашыма, і прадуктамі.

– Я вельмі ўдзячная бацькам, бо без іх я не пражыла б, – кажа студэнтка. – Ім цяжка, заробкі невялікія, таму штодзень не ядзім піццу і сушы. Асабліва цяжка было, калі наймала пакой. Але ад снежня жыву ў інтэрнаце, гэта нашмат танней.

Таксама бацькі дапамагаюць дачцэ з аплатай мабільнай сувязі – дзяўчына не заўсёды мае грошы, каб пакласці на рахунак. Падобная сітуацыя з праязным на метро: ён абыходзіцца сям'і ў 13 рублёў на палову месяца.

Настасся штотыдзень ездзіць да бацькоў у Вілейку.

– Мама збірае мне торбу ежы: што-небудзь мясное, садавіну, гароднiну, хлеб, – распавядае дзяўчына. – Часам гатую сама, асабліва супы і кашы. Паміж парамі звычайна хаджу падсілкавацца ў сталоўку.

Але кошты ў журфакаўскай сталовай не прыцягваюць студэнтаў, таму многія абыходзяцца кубкам чаю і булкай.

– Сталоўка дарагая! Салата, сталовая лыжка якой размазаная па талерцы, каштуе ад 1,50 рублёў, – прыгадвае Настасся. – Мясное каштуе не танней за 3 рублі. Так што купляю чай ці суп – гэта каля рубля выходзіць.

На забавы грошай увогуле не застаецца. Дзяўчына прызнаецца, што захапляецца тэатрам і кіно, толькі грошай на гэта ніколі няма. Але Настасся дакладна ведае, на што б патраціла кругленькую суму, калі б атрымалася яе назбіраць.

– Пусціла б грошы на падарожжы, – кажа студэнтка. – Хацела б з'ездзіць у Польшчу, Італію, Францыю, Іспанію, пабачыць мора. Хацелася б пажыць у іншай краіне, каб акунуцца ў іншае жыццё, – пакаштаваць кухню, даведацца аб традыцыях і паўсядзённым жыцці, адзначыць мясцовыя святы.


**Аляксандра ПАРАХНЯ**
**E- mail:** alesia.ptushka@gmail.com

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 16.03 | 23.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9152 | **1,8854** |
| Еўра | 2,0357 | **2,0339** |
| Злоты, 10 | 4,7093 | **4,7532** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2409 | **3,2651** |
| Грыўня, 100 | 7,1263 | **6,9959** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” 15.03 і 22.03** | | |
| Еўра | 2.0200/2.0450 | **2.0100/2.0400** |
| Долар ЗША | 1.9080/1.9250 | **1.8700/1.8900** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 14.03 | 21.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 15,99 | **15,99** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,93 | **7,13** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,35 | **3,65** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **8,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,18 | **4,15** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,38** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 13,80 | **12,00** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,85** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 2,30 | **1,80** |
| Алей “Фермер”, 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,75 | **0,75** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 4,50 | **4,80** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,40 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,69 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 7,00 | **6,90** |
| Капуста, 1 кг | 0,39 | **0,35** |
| Морква, 1 кг | 0,49 | **0,65** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,69 | **1,55** |
| Лімоны, 1 кг | 3,49 | **3,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | **2,75** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,85 | **2,65** |
| Гранаты, 1 кг | 3,49 | **3,49** |
| Ківі, 1 кг | 3,49 | **3,49** |
| Буракі, 1 кг | 0,45 | **0,50** |
| Памідоры, 1 кг | 2,70 | **3,40** |
| Агуркі, 1 кг | 3,80 | **3,60** |
| Перац, 1 кг | 6,95 | **3,90** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,95 | **2,85** |
| Вінаград, 1 кг | 7,00 | **6,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,39 | **2,45** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,39 | **1,60** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,45 | **3,20** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,45 | **0,50** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **10,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

## Сезон роварных крадзяжоў ужо адкрыўся

**МАЛАДЗЕЧНА**

У лютым невядомы скраў трукавы ровар “ВМХ” з пад’езда дома па вуліцы Віленскай. Гаспадар атрымаў шкоду на 160 рублёў, таму што не паклапаціўся пра свой транспарт.

Прытым, што ровары – рэч каштоўная, захоўваюць іх часта зусім нядбайна. Амаль 70% крадзяжоў адбылося таму, што злодзей мог без перашкоды іх забраць.

### Чаму ровары – ласы кавалак для злодзея

Часта гаспадары нядбайна ставяцца да гэтай сваёй маёмасці, пакідаюць іх, дзе папала, і ніяк не ахоўваюць. Часам пацярпелыя ставяць гэты транспарт у пад’ездзе, наіўна мяркуючы так абараніцца ад крадзяжу. А здараецца, пакідаюць ровар проста на вуліцы, нават без замка.

Нядбайнасць гаспадароў яшчэ і ў тым, што многія з іх не захоўваюць пашпарт тэхнічнага сродку, і таму не могуць даказаць, што гэта іх транспарт.

### Ці варта купляць крадзены ровар

Некаторыя гатовыя купляць танныя рэчы, ведаючы, што яны крадзеныя. Пры такой пакупцы вы рызыкуеце развітацца з рэччу без якой-небудзь кампенсацыі.

А яшчэ вас могуць прыцягнуць да крымінальнай адказнасці па артыкуле “Набыццё ці збыт матэрыяльных каштоўнасцяў, заведама атрыманых злачынным шляхам”.

### “Нешчаслівыя” месцы для ровараў

Летась на Маладзечаншчыне скралі 57 ровараў. Пераважна крадзяжы адбыліся ноччу і з пад’ездаў дамоў.

Самыя “прывабныя” для злачынцаў месцы – Паўднёвы і Усходні мікраранёны Маладзечна. У Радашкавіцкім сельсавеце кралі звычайна з лецішчаў.

Маладзечанская міліцыя раіць не пакідаць ровары без нагляду на лесвічных пралётах і ў адкрытых для чужых памяшканнях.

### Якая адказнасць чакае за парушэнні

За пакінутыя на лесвічнай пляцоўцы ровары прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць па артыкуле “Парушэнне правілаў карыстання жылымі памяшканнямі”.

Калі вы сталі сведкай крадзяжу, просім паведаміць па нумарах:
**102, (80176)**
**77-16-56,**
**77-14-88,**
**77-44-11.**

**Паводле паведамлення Валянціна АСІПОВІЧА, начальніка Маладзечанскага РАУС.**

## Ад 23 сакавіка ДАІ правярае паркоўкі начных клубаў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Доўжыцца акцыя будзе да 27 сакавіка.

У гэты час Маладзечанская ДАІ запланавала цэлы комплекс мерапрыемстваў, каб забяспечыць парадак на дарозе і каб не дапусціць да кіравання нецвярозых вадзіцеляў.

**Дзмітры Юркевіч**, начальнік Маладзечанскай ДАІ, расказаў “Рэгіянальнай газеце”, што асаблівую ўвагу інспектары нададуць патруляванню парковак ля начных клубаў, кавярняў, рэстаранаў, адным словам, у тых месцах, дзе ў кіроўцаў ёсць спакуса сесці за руль у не зусім цвярозым стане.

Таксама ДАІ просіць грамадзян быць пільнымі. Калі раптам на дарозе вы заўважыце штосьці падазронае, паведаміце пра гэта па тэлефоне:
**77-16-56.**

**Наталля ТУР.**

# Зацягнулі мадэрнізацыю вытворчасці, парушалі санітарныя нормы

## Правялі пазапланавую праверку Вілейскага камбікормавага завода

**ВІЛЕЙКА**

Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю правёў пазапланавую праверку ААТ “Вілейскі камбікормавы завод” і знайшоў шэраг парушэнняў.

1. Прадпрыемства зацягвае тэрміны мадэрнізацыі вытворчасці.

2. Не выконвае планы па закупцы прадукцыі раслінаводства.

3. Парушае санітарныя нормы і правілы; заканадаўства аб бухгалтарскім уліку і справаздачнасці, аб рэалізацыі кармавых дадаткаў, тэрміны заключэння дзяржаўных кантрактаў і інш.


Фота soyuzkorm.ru.

На Вілейскім камбікормавым заводзе знайшлі парушэнні.

**Таварыства не мае магчымасці гранулявання камбікорму, што павялічвае яго сабекошт. За 10 месяцаў 2016 года дадатковыя затраты па грануляванні камбікорму іншымі арганізацыямі былі вышэйшымі за 800 тысяч рублёў.**

У 2013 годзе таварыства пачало мадэрнізацыю вытворчасці. Планавалася:

1. Рэканструкцыя пабудовы млыннага комплексу з устаноўкай лініі гранулявання.

2. Мадэрнізацыя пабудовы млыннага комплексу пад устройствам газавай кацельні для вытворчых патрэбаў.

3. Работа па знешнім энергазабеспячэнні камбікормавага завода ў сувязі з мадэрнізацыяй завода.

Было закупленае абсталяванне, праведзеныя падрыхтоўчыя мерапрыемствы. На гэта было затрачана звыш аднаго мільёна рублёў.

Пры гэтым таварыства атрымлівае толькі дазвол на праектна-пошукавыя і будаўнічыя работы, у якіх мяняюцца толькі назвы аб’ектаў будаўніцтва. У той час як да будаўніча-мантажных работ амаль не прыступалі, а абсталяванне не выкарыстоўвалі.

### Замест таго, каб спаганяць грошы, заключылі дамовы мены

Таварыства было негатовае ў 2015 годзе да нарыхтоўкі прадукцыі раслінаводства за кошт рэспубліканскіх патрэбаў. Дамова пастаўкі збожжа была заключаная з затрымкай амаль на два месяцы, не забяспечаная нарыхтоўка 68,7% (1,11 тысячы тон) ад даведзенай колькасці пшаніцы і 40,5% (2,97 тысячы тон) ячменя.

Замест таго, каб патрабаваць ад сельскагаспадарчых прадпрыемстваў вяртання грошай, таварыства заключыла дамовы мены на колькасць недапастаўленага збожжа. Гэта забаронена заканадаўствам.

У выніку дзевяць сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Вілейскага раёна, два Лагойскага, тры Валожынскага і пяць сельгаспрадпрыемстваў Мядзельскага раёнаў не выканалі даведзены рашэннямі райвыканкамаў дзяржаўны заказ па пастаўцы прадукцыі раслінаводства ў Вілейскі камбікормавы завод.

**А з рэспубліканскага бюджэту залішне патрачана звыш 532 тысяч рублёў. Бо таварыства не выканала свае абавязкі па пагашэнні атрыманага крэдыту.**

Таварыства парушыла патрабаванне тэхнічнага рэгламенту “Кармы і кармавыя дадаткі. Бяспека”. Сельгаспрадпрыемствы Вілейскага і Маладзечанскага раёнаў рэалізавалі без дзяржаўнай рэгістрацыі кармавыя дадаткі на суму звыш 299 тысяч рублёў.

Вілейскі камбікормавы завод і кіруючыя асобы прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці. Інфармацыя накіраваная ў Мінаблвыканкам, а для дачы прававой ацэнкі – у праваахоўныя органы.

**Паводле Маладзечанскага міжраённага камітэта.**

## ПАДПІСКА

...газета...
“Рэгіянальная газета”!
Мы ведаем,
дзе здарылася злачынства.



**Крымінальныя навіны і не толькі можна прачытаць, падпісаўшыся:**

праз сайт “Белпошты” (заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем “Алфавітны”, цiснем літару “Р”, справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – “Рэгіянальная газета”)

на пошце
праз паштальёна
праз плацежна-даведачны тэрмінал

**Падпісны індэкс: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).**

Цана **індывідуальнай падпіскі**
на месяц – 2 рублі 65 капеек,
на тры месяцы – 7 рублёў 95 капеек.

# Што рабіць, каб памідоры даспелі хутчэй, ведае Яраслава Клімовіч




Яраслава Клімовіч з вілейскай школы №3. Фота забяспечанае Людмілай НОВІК.

ВІЛЕЙКА

**Яраслава Клімовіч з Вілейкі можа навукова даказаць, што ў дамашніх умовах памідоры даспеюць хутчэй, калі ў каробку з імі пакласці банан.**

Пры гэтым Яраслава – не навуковец-батанік, а звычайная трэцякласніца вілейскай школы №3. Праўда, ад сваіх аднагодкаў, па словах настаўніцы **Людмілы Новік**, дзяўчынка крыху адрозніваецца.

Яна выбірае не камп'ютар або планшэт, а кніжку і мерапрыемствы ў школе ў суботні дзень. Дзяўчынка ўсім цікавіцца. Кожную суботу мама прывозіць Яраславу на віктарыны і конкурсы ў школы, бо ёй гэта вельмі цікава.

### Дзе жыве этылен і навошта ён патрэбны?

Калі настаўніца трэцякласнікаў выбірала ўдзельніка для навукова-практычнай канферэнцыі, яна прапанавала ўдзел Яраславе. Тым больш, досвед у дзяўчынкі ўжо быў. Яшчэ першакласніцай на раённым конкурсе яна заняла другое месца.

Удзел у сёлетнім конкурсе стаў больш паспяховым. Яраслава Клімовіч заняла першае месца. Яе работу "Даспяванне таматаў у дамашніх умовах" накіравалі на абласны фестываль "Я – даследчык".

Па словах настаўніцы, з 31 працы для ўдзелу выбралі 10. Сюды ўвайшла і праца Яраславы.

Ініцыятыва даследавання сыходзіла ад самой дзяўчынкі. Яе мама вырошчвае памідоры на ўласным агародзе. Лета не заўсёды дастаткова цёплае, таму памідоры часта не даспяваюць на градках. Агароднікі здымаюць іх і кладуць даспяваць дома.

У літаратуры мама Яраславы прачытала, што памідорам даспець хутчэй дапамагае этылен. Ён бывае хімічны і прыродны.

У даследчай працы дзяўчынка звяртае ўвагу на тое, што для даспявання экзатычных фруктаў, напрыклад бананаў, часта выкарыстоўваюць хімічны этылен. Іх прывозяць зялёнымі, а потым з дапамогай хіміі фрукты даспяваюць. Не вельмі добра для дзіцячага здароўя ўжываць такія бананы.

Аднак з тых жа бананаў выдзяляецца і прыродны этылен. Ён не шкодзіць дзіцячаму здароўю і дапамагае садавіне і агародніне даспець хутчэй.

Дзяўчынка з мамай зрабіла такі дослед. У тры каробкі яны насыпалі недаспелыя памідоры. У кожную па 12 штук. Першую захоўвалі адкрытай, другую закрытай, а трэцюю закрылі і паклалі туды скурку ад банана.

### Навуковы тандэм мамы, дачкі і настаўніцы

Праз пэўны час паглядзелі на вынікі. Аказалася, што таматы, якія ляжалі з бананавай скуркай, даспелі хутчэй.

Пра гэта дзяўчынка расказала журы на абласным даследчым фестывалі ў Мінску 10 сакавіка і адказала на ўсе пытанні журы. Па словах юнай даследчыцы, банан дапаможа даспець хутчэй не толькі таматам, але і любой садавіне і агародніне.

Па словах настаўніцы, асноўную працу дзяўчынка рабіла разам з мамай. Людміла Новік толькі дапамагла ўсё аформіць.

– Якая б добрая не была праца, але 50 працэнтаў поспеху залежыць ад таго, як дзіця яе прадставіць,– перакананая настаўніца.

Для трэцякласніцы не так лёгка выступіць на навуковую тэму перад незнаёмымі людзьмі і не разгубіцца пры гэтым.

Дастойна выступіць Яраславе дапамаглі яе ўпэўненасць, уменне трымацца на публіцы без сарамлівасці.

Сёлета даследчыя працы прадстаўлялі не ў рамках конкурсу, а ў рамках фестывалю. Асаблівым гонарам для вучаніцы і яе настаўніцы было патрапіць туды. З фестывалю Яраслава прывезла дыплом.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Журналістка падарыла маладзечанскаму раддому чахлы на кювезы

МАЛАДЗЕЧНА

**Шэсць новых чахлоў на кювезы для неданошаных дзяцей падарыла маладзечанскаму раддому журналістка і мама ў дэкрэтным Марына Бегункова.**

Па словах жанчыны, калі яна пайшла ў дэкрэтны адпачынак, то з'явілася больш часу. І яна захацела заняцца якой-небудзь добрай справай.

Шыць Марына ўмела даўно, а цяпер нават мае сваю майстэрню. Адкуль такое ўменне ў журналісткі? Мама Марыны – прафесійная швачка.

– З дзяцінства памятаю сябе сярод тканін і нітак, – жартуе Марына.

Даведаўшыся, што праблема неданошаных дзяцей актуальная для Беларусі, яна вырашыла неяк далучыцца да яе вырашэння.

Шмат размаўляла з маладымі мамамі, тэлефанавала ў аддзяленні неданошаных дзяцей, пыталася, чаго там не хапае. Даведалася, што патрэбныя чахлы на кювезы.

Так нарадзіўся сацыяльны праект "Чахлы на кювезы для неданошаных дзяцей". Праект перамог на рэспубліканскім конкурсе Social Weeked 8.

Палову грошай сабралі з дапамогай платформы ў інтэрнэце, палову даў мецэнат. Сродкаў хопіць на 60 чахлоў.

Маладзечна стаў першым горадам, куды Марына прывезла патрэбныя падарункі.

Па словах жанчыны, з горадам Маладзечна ў яе няма ніякіх асабістых сувязяў. Кажа, проста патэлефанавала ў раддом і спытала, ці пагодзіцца кіраўніцтва прыняць такія чахлы. І атрымала згоду.

Прычым, прызнаецца Марына, усё вырашылася вельмі хутка. Сёння патэлефанавала і дамовілася, а назаўтра ўжо перадала чахлы ў аддзяленне.

Свае чахлы Марына шые з сінтэпону і бавоўнянай тканіны на машынцы ва ўласнай майстэрні. Сабекошт аднаго – 30 рублёў. Калі ж купляць прамысловыя чахлы, яны будуць каштаваць каля 200 рублёў.

– Адзіны недахоп баваўняных чахлоў у тым, што яны хутчэй зношваюцца, – расказала Марына.

Аднак плюсаў больш. І не толькі ніжэйшы сабекошт. Самаробныя чахлы можна мыць у пральнай машыне разам з дзіцячымі пялёнкамі. Прамысловыя ж у апрацоўцы больш складаныя.

Для сваіх чахлоў Марына спецыяльна выбірае прыгожую расфарбоўку тканіны. Гэта для таго, каб матуля, якая прыходзіць зірнуць на немаўля, бачыла не толькі шэра-белыя сумныя бальнічныя колеры. Ідэю з яркімі тканінамі Марына падгледзела ў Расіі. Кажа, гэта добра ўплывае на псіхалагічны стан матуль.

Жанчына расказала, што ў неданошаных дзяцей недаразвітая сятчатка вачэй. Чахлы патрэбныя для таго, каб засцерагчы вочы дзіцяці ад празмернага святла.

А яшчэ, каб немаўля адчувала сябе так, быццам знаходзіцца ў чэраве маці.

Да справы Марына падышла з усёй журналісцкай адказнасцю. На сваю дзейнасць жанчына мае дазвол Міністэрства аховы здароўя.

Сталічныя радзільныя дамы абсталяваныя лепш, тут Марыніны падарункі непатрэбныя. Таму ўсе чахлы жанчына планue падарыць раддомам у рэгіёнах.

Аксана ЯРАШОНАК.




Марына (злева) перадае падарункі для неданошаных дзяцей загадчыцы аддзялення Наталлі Насыр.

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ - ГЕРМАНІЯ




Уладзімір Някляеў (у цэнтры) падчас прэзентацыі. Фота fb.com.

# За што смажаць гусей у Дзень святога Марціна:

## Уладзімір Някляеў – пра паездку ў Германію

СМАРГОНЬ

**Летась у Берліне прэзентавалі кнігу журналіста Аляксандра Тамковіча "Чарнобыльскі шлях. Ад катастрофы да сада надзеі". На прэзентацыю запрасілі Уладзіміра Някляева.**

Тэкст нашага земляка са Смаргоншчыны побач з артыкуламі беларускіх і нямецкіх дзеячаў ёсць у кнізе Тамковіча.

На прэзентацыі паэт чытаў свае вершы. Пабеларуску, без перакладу. Па словах Уладзіміра Пракопавіча, немцы потым адзін за адным падыходзілі са словамі "як вы хораша праспявалі!"

> – Ім здалося, што я спяваў, – прыгадвае паэт. – Гэтак чуецца для нямецкага вуха праз сваю мілагучнасць беларуская мова.

Аднак розніца паміж намі і немцамі не толькі ў мовах, перакананы паэт.

Пасля прэзентацыі пайшлі святкаваць Дзень святога Марціна. Яго адзначаюць у лістападзе. Традыцыйна ў гэтае свята па нямецкіх вуліцах ходзяць дзеці з ліхтарыкамі і спяваюць тэматычныя песні.

### Нібы трапіў у Берлін 1930-х гадоў

Марцін – святы, якога ў Германіі і ўвогуле ў Еўропе шануюць, бо ён заступнік бедных, расказаў Уладзімір Някляеў. Адсюль – дабрачыннасць як норма жыцця ў многіх немцаў.

Святы Марцін – заступнік не толькі бедных людзей, але і свойскіх птушак. Але гэта не замінае і бедным, і багатым з'ядаць у дзень памяці гэтага святога мільёны смажаных гусей.

– Есць легенда, – распавядае паэт, – што Марцін не хацеў, каб яго абіралі епіскапам. Схаваўся ў гусятніку, а гусі загагаталі і выдалі яго. Дык іх, маўляў, за гэта...

Пакаштаваць гусь у Дзень святога Марціна пашчасціла і нашаму земляку. Адбывалася гэта ў старанямецкім рэстаране з дамашнім інтэр'ерам.

– Прыходзім, а там кабета, падобная да Марлен Дзітрых, спявае яе песню пра тое, як дзяўчаты адчыняюць усе вокны і дзверы, калі па вуліцы ідуць салдаты. І ўсе немцы за ўсімі сталамі, застаўленымі куфлямі з півам і талеркамі з гусямі, узяўшыся пад рукі, калыхаюцца з боку ў бок, падпяваюць.

У паэта тады склалася ўражанне, што ён трапіў у Берлін 1930-х гадоў.

### Уладзімір Някляеў: Я ненавідзеў немцаў так, як мяне вучылі

У застоллі Фровін Юнкер, сябра рады "Дзецям Чарнобыля", якому 90 гадоў, завёў размову пра гады 1940-я. Ягоны старэйшы брат Ганс-Фрыдрых Юнкер у 1942 годзе паступіў у лётную школу, а ў 1944-м загінуў на рускім фронце. Яго збілі над Чорным морам у час першага палёту, калі той ляцеў бамбіць Крым.

Спадар Фровін жаліўся, што ніяк яму не ўдаецца надрукаваць успаміны пра свайго брата. Ён добраахвотна ў 17 год стаў салдатам нямецкіх ваенна-паветраных сіл Люфтвафэ.

Юнак папрасіўся на фронт і дастойна выконваў свой салдацкі абавязак. "Чаму я не магу ўшанаваць яго памяць? Чаму не магу ганарыцца ім?.." – допытваўся стары немец.

І тады Ірына Грушавая, удава стваральніка фонду "Дзецям Чарнобыля" Генадзя Грушавога, адказала:

– Таму што ў 1944-м мае бацькі былі ў Крыме. І калі б ваш брат даляцеў і скінуў бомбу, мяне магло б не быць. І не было б майго сына, маёй дачкі, маёй унучкі...

Фровін паківаў, а пасля дастаў з кішэні невялічкую рукапісную кніжачку. І падпісаў яе Уладзіміру Някляеву: "Гэта лісты майго брата з фронту, пачытайце. Ён не хацеў нікога забіваць..."

Жонка Фровіна, якой таксама 90, тут жа ў рэстаране пачала чытаць свае вершы пра вайну.

– А я глядзеў на яе, на Фровіна, – прыгадвае Някляеў, – і ўспамінаў, як ненавідзеў немцаў! Гэтак, як вучылі мяне іх ненавідзець. Мой бацька дома, настаўнік **Піліп Піліпавіч** у школе, піянерважатыя ў лагеры. І вось вечарую з немцамі, спяваю іх песні...

Аксана ЯРАШОНАК.

**Даведка "РГ".** Дзень святога Марціна ў хрысціянства прыйшоў з язычніцтва. У дахрысціянскія часы кельты адзначалі свята Сайман – час, калі сабралі ўраджай і пачынаецца зіма. Язычнікі ў гэты дзень палілі вогішчы, спявалі рытуальныя песні, прыносілі ў ахвяру жывёл. З прыняццем хрысціянства свята трансфармавалася ў Дзень Святога Марціна – першага святога, які памёр не гвалтоўнай смерцю. Марцін быў абаронцам жабракоў, вайскоўцаў, тэкстыльшчыкаў, свойскіх жывёл і птушак. На свята гатуюць гусь, чатырохвугольныя вафлі або булкі ў выглядзе падковы. У гонар святога Марціна нямецкія пастухі б'юць галінкамі свойскую жывёлу. Праводзяць кірмашы. Дзеці збіраюцца вялікімі групамі, спяваюць і нясуць ліхтарыкі.




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб’яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. (80176) **753841, 769667.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**

* *Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**



## ВІНШАВАНКА

**Зоі Яўгенаўне ГАТОЎЦЫ з Маладзечна**

Дарагая і любімая сястрычка! Сярдэчна віншуем з юбілеем. Жадаем шчасця, моцнага здароўя, дабрабыту, аптымізму, даўгалецця.

*Пусть годы уходят, не надо грустить,*
*Ведь сколько отпущено – надо прожить.*
*Несчастье бывало, и радость, и грусть,*
*Из жизни не вычеркнуть пройденный путь.*
*Храни тебя Бог от житейских невзгод,*
*От тяжких болезней, душевных тревог.*
*Пусть будет немало безоблачных дней,*
*Согретых любовью, родных и друзей.*
*И хочется нам в этот день пожелать:*
*Не болеть, не стареть, не скучать*
*И ещё много лет дни рожденья встречать!*

**З самымі шчырымі віншаваннямі сястра з мужам, хросніка са сваімі сем’ямі.**



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўтамабіль "Жыгулі" на запчасткі. Вілейка. Т. (8-029) 6940541, (8-029) 9041668.*

• ВАЗ-21093, 1994 г.в., 1,5 бензін, торг; Т-40М без дакументаў. Т. МТС (8-029) 5031492, Вэлком (8-044) 5366026.*

• Гольф-3, 1994 г.в.,1,4Б; Сузукі – GSF, 2000 г.в., 600 кв. см. Т. (8-029) 6158448.

• Опель-Вектра B, 1997 г.в., 2,0 ТД, белы. Т. (8-029) 5678090.*

• Рэно-Эспэйс, 1998 г.в, 2,0 газ-бензін, сіні. Т. (8-033) 6573695, (8-029) 2551334.*

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |



• Фіят-Брава, 1997 г.в., 1,6 бензін, колер шэры, добры стан, танна. Тэрмінова! Т. Вэлком (8-029) 9346173.

• Сааб 9,5, 1999 г.в., 2,3 газ/бензін, турба. Усё па тэлефоне. Т. (8-029) 7707838.

• Аўтабагажнік. Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 3463652.

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• Запчасткі да Опель-Асконы. Ёсць амаль усё. Т. (8-029) 2610362.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*



### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, Т. (8-029) 1261119.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 8853281.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Ваш аўтамабіль дорага. Т. (8-029) 5016877.*

• Дапамагу прадаць ваш аўтамабіль. Т. (8-029) 5016877.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

• Сітраэн-Ксара, можна аварыйны. Т. (8-025) 9249978.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2746195.

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Садовай, 8, кв. 116; 5 паверх, пад’езд 4. Агульная плошча 24,4 кв. м, кухня 5,5 кв. м, жылая 12,6 кв.м, санвузел сумешчаны 2,9 кв.м, балкон зашклёны, вокны ПВХ, дзверы металічныя. Побач банк. Т. (8-033) 6332446.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Садовай, агул. плошча 23,6 кв.м, 3 паверх, цана дагаворная. Т. (8-0176) 544348.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, 14 км ад Маладзечна, плошча 36/16,2/8,2 кв.м, шклопакеты, жалезныя дзверы, добры рамонт, побач электрычка. Магчымы абмен на аўто.Т. МТС (8-029) 8969901.*

• 2-паверховы цагляны дому Вілейцы, зямельны участак 11 сотак. Т. (8-029) 6940541, (8-029) 9041668.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Чапаева, 2 паверх. Т. (8-029) 7660483.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5081223..*

• 2-пакаёвая кватэра ў Любані, еўрарамонт. Т. (8-029) 8460439.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, 5 паверх, плошча 64,3/36,4/8,5. Тэрмінова! Т. (8-029)1973497, (8-029)1841007.*

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Астраўца. Добры рамонт. Т. (8-029) 6795294.*

• Гараж у ГБК №6 у Вілейцы. Т. (8-029) 2716012.*

• Гараж у ГК №1 г. Маладзечна. Т. (8-029) 6262756.*

• Гараж у ГК № 24 у Маладзечне. Т. (8-029) 6637733.*

• Дача (цэгла), СТ "Гранат", 10 км ад Маладзечна, возера. Т. (8-029) 3947252.*

• Дача "Рубін-2001" у в. Забалацце, 4 км ад Маладзечна, 11 сотак зямлі. Дом блочны, хлеў, калодзеж, душавая, лазня. Прадам нядорага. Т. МТС (8-029) 5703669.*

• Дом драўляны, жылы, у цэнтры Маладзечна, 65 кв.м, з мэбляй, газ, водаправод, гараж. Т. (8-029) 6691789.*

• Дом вялікі і добры ў в. Шастакі, 13 км ад Смаргоні, выдатнае месцазнаходжанне. Т. (8-029) 8724272.

• Дом жылы з выгодамі ў в.Порса, участак 25 сотак. Т. МТС (8-033) 6037713.

• Дом жылы ў Маладзечне 85/34 кв.м, пячное ацяпленне, халодная вада ў доме і ў двары, гаспадарчыя пабудовы, 0,06 га (Старое Места). Дача 6х6,5 кв. м, 2 узроўні, вада на ўчастку, 0,04 га, 4,2 кв.м, СТ "Крынічка-83" ("Родничок-83"), Марoські.Т. (8-025) 6696469, (8-0176) 500337.

• Дом з цокальным паверхам, участак 6 сотак, 17 км ад г. Маладзечна, ст. электрычкі "Ласі", побач лес, дачны кааператыў "Зялёныя горкі", 30 000 руб. Т. (8-029) 3925149.*

• Дом пад знос у Вілейцы. Т. МТС (8-029) 8609355.

• Дом у а/г Куранец Вілейскага раёна. Т. (8-029) 7752165, (8-01771) 23871.

• Дом у в.Валэйкавічы Смаргонскага раёна, цана дагаворная. Т. (8-029) 8659477.*

• Дом у вёсцы Гародзькі Валожынскага раёна (ст. Валожын), участак 0,21 га. Т. (8-044) 4586050.*

• Дом у вёсцы Мамаі Вілейскага раёна на беразе ракі Вілія. Плошча 43 кв. м, на 22 сотках зямлі вялікі сад. Т. (8-01771) 71166, (8-025) 5223147.*

• Дом у вёсцы Якджэнцы Мядзельскага раёна, 20 км ад к.п. Нарач. Побач лес, рэчка. Т. (8-029) 7765213.*

• Дом у маляўнічым месцы, 6х6, ёсць калодзеж, святло, вакол лес, 12 км ад горада Маладзечна. Астатняя інфармацыя па тэлефоне, цана 7000 рублёў. Т. (8-029) 3125505.

• Паўдома ў вёсцы Куранец Вілейскага раёна, нядорага. Т. МТС (8-029) 2599068.

• Паўдома ў цэнтры Вілейкі, 10 сотак, альбо абмяняю. Т. МТС 7210722.

### ЗДАМ

• Здам пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.

• Здаю ў арэнду памяшканне альбо прадам. Можна пад СТА. Т. (8-033) 5144308.

• У арэнду гандлёвае памяшканне плошчай 94 кв.м у Вілейцы, усе камунікацыі. Т. (8-029) 7649962, (8-029) 7613299.*


Фота facebook.com.

Пасля 40 гадоў жанчына сама вырашае, колькі ёй гадоў, – сведчыць вядомы жарт. Таму надзявайце той узрост, які ў вашай душы, а не ў пашпарце.

# У душы – 18, у пашпарце – 40

## Як стасуюцца псіхалагічны ўзрост і пашпартны

**Кожны з нас, думаю, адзначаў для сябе, што знешні выгляд чалавека і яго паводзіны альбо фізічны стан часта не адпавядаюць пашпартным дадзеным. Разбяромся з псіхолагам, як стасуюцца паміж сабой псіхалагічнае адчуванне ўзросту і фізіялагічнае.**

Псіхалагічны (унутраны) узрост – гэта ўнутранае адчуванне самім чалавекам, ацэнка яго ўзросту па паводзінах з пункту погляду іншага чалавека.

**Псіхолагі сцвярджаюць – адчуванне ўнутранага ўзросту залежыць ад уяўленняў чалавека пра тое, якім ён павінны быць у пэўным узросце, як і пад уплывам чаго павінны фарміравацца і характарызавацца канкрэтныя ўзроставыя перыяд.**

Дадзенае ўяўленне істотна ўплывае і на стэрэатыпы знешняга навакольнага асяроддзя, да якіх можна аднесці такія сацыяльныя падзеі, як шлюб, нараджэнне дзіцяці, павышэнне па службе і іншае. Менавіта гэты ўзрост з'яўляецца асновай пастаноўкі задач альбо выбару пэўнага стылю і ладу жыцця і нават зацікаўленняў.

### Развівайцеся – і маладосць не пакіне

Большасць спецыялістаў лічаць, што псіхалагічны ўзрост – узроставы паказчык рэалізаванасці чалавека. Калі працягваць развіваць асабістыя магчымасці, складаць планы, гэта шанец адчуваць сябе маладзейшым, а макіяж умела схавае маршчынкі.

**25-гадоў – узроставая мяжа, якая забяспечвае раўнавагу, пры якой могуць супадаць псіхалагічны, унутраны і храналагічныя віды ўзросту.**

У 20 гадоў часта маладыя людзі адчуваюць сябе значна старэйшымі, чым на самой справе.

Пасля 30 назіраецца адваротная сітуацыя – людзі несвядома стараюцца зменшыць узрост і пры гэтым адчуваюць сябе маладзейшымі на некалькі гадоў.

Падобная тэндэнцыя, як правіла, назіраецца ў людзей старэйшага пенсійнага ўзросту, пры якім на свядомасць у большай ступені аказваюць уплыў такія фактары, як сацыяльнае асяроддзе, узровень эмацыйнай і сацыяльнай падтрымкі.

### Як вызначыць псіхалагічны ўзрост?

Можна выкарыстоўваць распрацаваныя тэсты псіхолагаў. Самы лёгкі з іх па шкале **Роберта Кастэнбаума**. Запоўніце прабелы:

Адчуваю я сябе на __ гадоў. Мой знешні выгляд дае зразумець, што мне __ гадоў. Мае зацікаўленні ў жыцці адпавядаюць узросту чалавека ў __ гадоў. Мае паводзіны ў звычайным жыцці паказваюць, што мне __ гадоў.

Складзіце лічбы, атрыманую суму падзяліце на чатыры. Атрымаецца ваш псіхалагічны ўзрост.

### Як падтрымліваць псіхалагічную маладосць

1 Будзьце аптымістам.

2 Любіце і акружайце сябе прыемнымі кантактамі.

3 Не забывайцеся планаваць на будучыню любыя этапы свайго развіцця і прыемныя падзеі. Акрамя знешніх зменаў, карысныя і змены ўнутранага вобраза. Заплюшчыце вочы і ўявіце сябе ў новым выглядзе, з новымі якасцямі. У фантазіях лепш імкнуцца да амаладжэння і лёгкасці.

4 Не дапускайце думак і чутак пра тое, што ўзрост зменшае магчымасці.

5 Вядзіце здаровы лад жыцця, адмоўцеся ад шкодных звычак.

6 Развівайце і напружвайце мозг.

**Галоўнае, зразумець, што псіхалагічны стан і ўзрост у вашых руках.**

Гэта тое, на што вы можаце ўплываць, і толькі ад вас залежыць – быць маладым і бадзёрым альбо псіхалагічна старэць і наракаць на хваробы, жыць успамінамі.


Таццяна ЖДАНАВА, псіхолаг.




### У конкурсах "Рэгіянальнай газеты" ёсць фіналісты

У конкурсе эсэ было пяцёра ўдзельнікаў. Гісторыю пра тое, як плануе зарабіць мільён вучань Даўгінаўскай школы **Дзяніс Яскевіч**, мы друкавалі ў мінулым нумары. Сёння прапануем вам працы трох удзельнікаў – **Валі Трубач**, **Максіма Святохі** і **Надзеі Бобрык**, якія абралі адну тэму – "Тыдзень на бязлюдным востраве". Работу пятай удзельніцы, **Надзеі Рухлі**, вы зможаце прачытаць у адным з наступных нумароў.

На нашым сайце rh.by прайшло галасаванне за ўдзельнікаў. Па выніках яго вызначыліся тры фіналісты конкурсу, сярод якіх жараб'ёўкай будзе вызначаны адзін пераможца. Жараб'ёўка пройдзе ў пятніцу, 24 сакавіка, у 14 гадзін. На ёй могуць прысутнічаць усе ўдзельнікі конкурсу.

Узнагароджанне адбудзецца ў аўторак, 28 сакавіка, на занятках курсаў беларускай мовы "Мова нанова" ў маладзечанскай бібліятэцы "Верасок". На яго запрашаем усіх удзельнікаў конкурсу.

**Хто выйшаў у фінал у конкурсе пра адпачынак**

Конкурс, у якім мы прымалі гісторыі адпачынку, сабраў разнастайныя маршруты: і па нашым рэгіёне, і па Еўропе, і нават вандроўку ў Афрыку. Свае працы дасылалі як школьнікі, так і дарослыя. Іх мы таксама будзем друкаваць у наступных нумарах "РГ". Сярод сямі ўдзельнікаў галасаваннем на сайце вызначаны тры фіналісты: **Ігар Кіцікаў**, **Максім Драгун**, **Вячаслаў Курбака**.

Пераможцу сярод іх вызначым таксама жараб'ёўкай. Пачнём яе адразу пасля таго, як атрымаем імя пераможцы конкурсу эсэ – 24 сакавіка пасля 14 гадзін. Прысутнічаць могуць усе ўдзельнікі конкурсу. Пераможцу ўганаруем на занятках "Мовы нанова" 28 сакавіка ў бібліятэцы "Верасок" у Маладзечне. Запрашаем на ўзнагароджанне ўсіх удзельнікаў.

**Калектыў "РГ".**

# Мой тыдзень на бязлюдным востраве

Надзея БОБРЫК,
10 "А" клас гімназіі №7 Маладзечна.

**Літаральна** на днях я пагледзела амерыканскую прыгодніцкую меладраму "Блакітная лагуна". Героі фільма – хлопец і дзяўчына – трапілі на бязлюдны востраў. У мяне ўзнікла пытанне: а што б рабіла я, калі б на тыдзень трапіла на гэты востраў?

**Добра,** калі б гэта быў адзін з астравоў Карыбскага мора з роўным і мяккім кліматам. Калі б я засталася там на тыдзень, мне б давялося паклапаціцца пра ежу, збудаваць сховішча. Галоўнае, каб на востраве была прэсная вада.

**Што** на кошт тых рэчаў, якія я хацела б узяць з сабой? Вядома, я ўзяла б прадукты харчавання, якія амаль не псуюцца: крупы, сухафрукты, хлеб, макарону, шакалад. Бо самастойна я, напэўна, з цяжкасцю дастала які-небудзь плод з дрэва або знайшла дзве-тры вядомыя ягады. Але нешта мне падказвае, што харчоў надоўга не хапіла б. Шкада, але ніхто не мог бы ўбачыць карціну, як я ўзбіраюся на пальму, спрабую палкай збіць какос.

**Ёсць** яшчэ адзін спосаб здабыць ежу – рыбалка! Я не спец у гэтай справе, але часта бываю з татам на азёрах, назіраю з боку за яго хітрымі махінацыямі ў лоўлі рыбы. На востраве, думаю, мне б давялося змайстраваць нешта ў выглядзе дзіды з вострым наканечнікам, каб без дапамогі вуды здабыць рыбу (пра гэты спосаб я шмат чытала ў інтэрнэце, што-небудзь я абавязкова б злавіла).

**Таксама** трэба захапіць з сабой палатку, запалкі (ды не адзін карабок), нож, які-небудзь кацёл або металічнае вядро, аптэчку, спрэй ад кузурак. Спадзяюся, я не сустрэлася б са змеямі, павукамі і яшчаркамі, таму што я іх да жаху баюся. Можа, гэта і глупства, але я захапіла б з сабой фотаапарат, каб захаваць унікальнасць і прыгажосць флоры і фаўны гэтага вострава на фотаздымках. Узяла б з сабой кнігу або часопіс, каб, схаваўшыся ад пякучага сонца пад галінкамі дрэў, акунуцца ў займальную гісторыю.

**Хацелася** б атрымаць асалоду ад незвычайна прыгожых краявідаў, вадаспадаў, паглядзець на экзатычных птушак: папугаяў, якія дзівяць яркасцю свайго апярэння, маленечкіх калібры, самых маленькіх птушак на зямлі. Без сумнення, я выкупалася б у цёплым моры і папесцілася пад промнямі гарачага сонца. Спадзяюся, на гэтым тыдні не было б ліўняў, шторму ці ўрагану. Яны там бываюць досыць рэдка, але з маім шанцаваннем магло бы быць усё, што заўгодна.

Хацелася б проста ўпасці на пясок і расслабіцца, адчуць, як лёгкі ветрык прабягае па маёй скуры, а ногі казычуць хвалі, атрымаць асалоду ад спеваў птушак і шуму марскога прыбою. Напэўна, нават ёсць плюсы ў тым, што гэты востраў бязлюдны. Гэты тыдзень я змагла б прысвяціць самой сабе, паразважаць, пераасэнсаваць многія рэчы, шмат чаму навучыцца, у рэшце рэшт, адпачыць. Думаю, калі б гэты час прайшоў без здарэнняў, мне хацелася б час ад часу вяртацца на мой ідэальны, выдуманы востраў.

**Тым вечарам** я яшчэ доўга атрымлівала асалоду ад фантазій пра экзатычны востраў. Але раптам у маёй галаве прамільгнула думка: "А што, калі мой бязлюдны востраў будзе пакрыты вечнай мерзлатой? Не дай Бог!".

Валянціна ТРУБАЧ,
11 "В" клас гімназіі №10 Маладзечна.

**Ах!** Як бы мне хацелася быць вядучай перадачы пра падарожжы. Я каштавала б усё самае невядомае, знаёмілася б з новымі людзьмі і іх культурай. Хм... А раптам мне надакучыць гэта мітусня, і я захачу дзе-небудзь супакоіць сваю душу?! Тады я кіну ўсё і адпраўлюся на бязлюдны востраў.

**Але што браць** з сабой? Для пачатку патрэбны чамадан з вялікай кучай убораў на сем дзён, потым мне трэба ўзяць відэлец, лыжку і рондаль... Не, не, не. Паеду ўлегцы ды буду, як Рабінзон Круза.

**Трэба** скласці спіс спраў! У першую чаргу я буду бегаць па пяску і гучна крычаць ад радасці, але стоп, гэта няправільна, я павінна паклапаціцца пра свой камфорт. Пабудую сабе будан з гамаком на дрэве. А ўжо потым можна і пагуляць па востраве. Ой, трэба ежу будзе шукаць, адразу буду зрываць шмат какосаў і бананаў, каб потым нічога не рабіць. Ну, усё, самае складанае ззаду, месца для начлегу ёсць, ежа і вада таксама ёсць. Зараз дакладна буду адпачываць.

**І вось** ляжу я ўжо на пяску, у паветры марскі брыз, але жывот мой какосамі і бананамі не падманеш. Ух, як бы я хацела дзеруны, але пайду лавіць рыбу. Усё, вячэра на стале. Неяк складана мне на востраве, трэба ўвесь час нешта рабіць. Не хачу! Я на дыеце.

**Плюс** адзін да спісу спраў – трэба загарэць, каб усе сяброўкі мне зайздросцілі. І так я праўду ўвесь тыдзень, буду адпачываць душой і марыць пра любімую беларускую бульбу. (P.S. Спадзяюся, што мяне ніхто не з'есць.)

**Здаецца,** усё, так я і правяла б свой адпачынак на бязлюдным востраве, а пакуль пайду збіраць падручнікі ў школу, заўтра ж панядзелак. Але пра свой жаданы адпачынак я не забуду ніколі.

Максім СВЯТОХА,
СШ №3 г. Вілейка.

**Вечарам,** перад сном, у сваім ложку я люблю памарыць. Хоць аб чым. Ці пра новую цацку, серыю новых часопісаў, ці пра новую гульню з сябрамі. Дарэчы, мы з імі летам хочам пайсці самастойна ў паход. З начоўкай. Мо, на бераг ракі, павудзіць рыбу, мо, на паляну якую, ды каб прыгод паболей. Не заўважыў я, як заплюшчыў вочы. А адкрыў ад нейкага незнаёмага мне шуму.

**Ой, а дзе гэта я.** На нейкім пляжы... Навокал пальмы, пясок, вада. Цуд нейкі. Трэба прайсціся, агледзецца. Так-так, месца незнаёмае, і ні жывой душы. Здаецца, я на нейкім бязлюдным востраве. Вось класна! Зараз агледжуся, пагуляю і раскажу пра ўсё сябрам. Абзайздросцяцца!

**Чаго тут** толькі няма! Вунь папугаі! Вунь малпачкі! Пальмы! Ліяны! Цёплая вада! Камяні, ракавінкі. Можна паплёскацца. Здарова!

**Прытаміўшыся** ад усяго гэтага, я прылёг на цёплы пясок і адчуў голад. І тут успомніў, што ў кішэні завалялася некалькі цукерак і пячэнек. З вялікім смакам я іх з'еў і заснуў. А прачнуўся зноў на востраве. О, мяне чакае яшчэ адзін дзень прыгод. Я пакатаўся на ліянах, паплаваў у акіяне і зноў захацеў есці. Толькі што? Успомніў кнігу, якую падарылі на Новы год "Энцыклапедыя для хлопчыкаў. Выжыванне ў экстрэмальных умовах". Дык вось тут яна мне спатрэбілася б, але ж я яе нават і не чытаў. На маё шчасце, мне трапілія какосавыя пальмы, пад якімі былі яшчэ цэлыя плады. Разбіваючы іх, я патраціў свой час да вечара. І толькі на захадзе сонца мне ўдалося папіць какосавага малачка і з'есці мякаці.

**Стаміўшыся,** я зноў хутка заснуў. Падняўся на востраве. Так прайшло яшчэ некалькі дзён.

Гэтыя прыгоды мне парадкам надакучылі. Я ўжо не марыў аб тым, як буду ўсё расказваць сябрам. Мне ўжо мроіўся пах маміных сырнікаў, смех малодшай сястры.

**Хацелася** нарэшце пачаць чытаць падораную кнігу. Эх, як жа сумна аднаму. Я заплюшчыў вочы, каб заснуць. А расплюшчыў іх дома... Дома! Ура! Я дома! Мама гатуе на кухні сырнікі. Разам з ёй на сваім крэсле грымела цацкамі Ганначка. Пайду павітаюся з імі і раскажу пра свае прыгоды.

НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Пляшчанская трагедыя

*Працяг. Пачатак у №№1, 2, 10, 11.*

**Каб больш падрабязна даведацца пра трагедыю 70-гадовай даўніны, якая здарылася ў Пляшчанах на Вілейшчыне, я завітаў да карэнных жыхароў гэтай вёскі Аляксандра (1932 г.н.) і Аляксандры (Булах) Доўнараў (1929 г.н.).**

Так атрымалася, што Паўлінка ў сваёй маці таксама была пазашлюбнай дачкой. Але ўсе гэтыя жыццёвыя абставіны не забралі прыгажосці, добрага сэрца і здольнасці кахаць і нарадзіць цудоўных пяцярых дзетак – Геню (1923 г.н.), Лёню (1927), Галіну (1930), Ваню (1932) і Марыську (1933).

Неўзабаве пасля вяселля няшчасны выпадак у Іванавым жыцці прыляпіў яму новую мянушку.

Летам Іван пасвіў кароў у полі. Раптам налясцела хмара і пайшоў дождж. Статак, перапужаўшыся грымотаў, рвануў з поля ў вёску. Услед за каровамі падаўся і Іван. Аднак вырашыў пераседзець навальніцу пад дрэвам, у якое і ўдарыла маланка. Тое, што каровы вярнуліся без пастуха, усхвалявала гаспадароў.

Івана знайшлі ў непрытомнасці. Але яму наканавана было жыць. Праляжаўшы пад глінянай “коўдрай” гадзіны тры, Іван прыйшоў у сябе. Аднак страціў слых і мову. Мог вымавіць толькі адно слова, Пя-я-ўн. Так нарадзілася яго новая і пажыццёвая мянушка Пярун.

Іван з Паўлінкай спраўляліся самі з небагатай сваёй гаспадаркай. Нараджалі дзетак і ніколі не адмаўлялі ў дапамозе вяскоўцам, за што былі ў пашане.

### Кватарант Іван Белік

Вайна прынесла ў Заельнікі жыццёвыя праблемы. Працавітаму і дужаму Івану памочнікі па гаспадарцы не былі патрэбныя. Але ўсё ж такі ён прытуліў у сябе аднаго з палонных, 26-гадовага чырвонаармейца, украінца, ураджэнца Алтайскага краю Івана Беліка.

Першыя месяцы гаспадар і кватарант знаходзілі агульную мову, але да той пары, пакуль апошні не пачаў па начах дзесьці сыходзіць з хаты, што было забаронена яму немцамі як палоннаму. А за такія парушэнні разам з ім нёс адказнасць і гаспадар.

Белік знікаў з хаты на цэлую ноч і прыходзіў з рознымі пажыткамі – прадукты, вопратка, абутак, нават траплялася жаночая бялізна. Грынкевіч зразумеў, што кватарант яго па начах займаецца дрэннымі справамі і тым самым нясе не толькі яму, але і ўсяму сямейству смяротную пагрозу.

Аднойчы Белік на добрым падпітку прыцягнуў у хату нямецкі кулямёт і некалькі гранат. Такой нахабнасці Грынкевіч ужо не вытрымаў і, раззлаваўшыся на кватаранта, паказаў яму на дзверы. А калі не, то Іван заявіць на яго ў паліцыю.

Беліку нічога не заставалася рабіць, як толькі папрасіць гаспадара, каб той дазволіў, пакуль пацяплее, пажыць у яго. У красавіку 42-га Белік з іншымі ваеннапалоннымі сышоў з Заельнікаў, але паабяцаў вярнуцца. І слова сваё стрымаў.

Дзесьці ў пачатку мая, нягледзячы на тое, што яго і іншых зніклых палонных шукала гарнізонная паліцыя, Белік наведаў не толькі Заельнікі, але і Загараны, дзе жыў Аляксандар Доўнар. У Загараны ён завітаў у складзе ўзброеных васьмі чалавек. Усе былі на падпітку, вялі сябе нахабна.

Белік гарлапаніў, што ў вёску вярнулася савецкая ўлада, а ён яе прадстаўнік. І што вы зразумееце, хто такі Белік! Але ў той дзень яны не паспелі “пагаспадарыць” у Загаранах. Бо вясковая вуліца і падыходы да яе вельмі добра праглядаліся немцамі са званіцы Хаценчыцкай царквы, якую яны скарысталі як назіральны і кулямётны пункт.

Немцы, заўважыўшы ў Загаранах ўзброеных людзей, не сталі па іх страляць, хутчэй за ўсё таму, што хацелі схапіць іх жывымі. Белік, заўважыўшы ў канцы вуліцы паліцэйскіх, даў па іх доўгую чаргу з кулямёта. Пакуль паліцэйскія апамяталіся, групоўка Беліка без страт здолела выбрацца за вёску. На радасць вяскоўцаў, з паліцэйскіх ніхто не загінуў, што і выратавала жыхароў ад пакарання.

### Барыс Лунёў

Па словах Аляксандры Мікалаеўны, ”савецкая ўлада” пасля таго выпадку ў Загараны больш не наведвалася аж да лета 1944-га, што нельга сказаць пра Пляшчаны. Як пазней высветлілася, той самы Белік сышоў у партызанскі атрад “Штурм”, які дыслакаваўся непадалёк у лесе, у межах Заслаўскага раёна. Гэты атрад спачатку быў сфарміраваны пераважна з ліку уцекачоў ваеннапалонных і акружэнцаў. Узначаліў яго 24-гадовы Барыс Лунёў, былы чырвонаармеец. Ён выдаваў сябе за афіцэра Чырвонай Арміі. А былы чырвонаармеец Белік таксама прысабечыў сабе званне палітрука і быў прызначаны Лунёвым начальнікам асобага аддзела атрада.




Вёска Загараны Хаценчыцкага сельсавета Вілейскага раёна зімой.

### Адпачынак лунёўцаў

У хуткім часе распаўсюдзілася слава пра гэты атрад народных мсціўцаў. Белік слова сваё, дадзенае жыхарам вёсак, стрымаў. За кароткі час ён стаў знакамітым партызанам. З яго імем былі звязаныя шматлікія “геройскія” ўчынкі, асабліва ў адносінах да жыхароў прылеглых вёсак, акрамя Загаранаў. Бо гэта вёска знаходзілася ў добра прыцэльным сектары абстрэлу нямецкага кулямётнага пункту. Беліку пра гэта было вядома, таму туды ён і баяўся сунуцца, нават ноччу. Затое ў астатніх народныя мсціўцы адчувалі сябе поўнымі гаспадарамі.

Заходзяць, бывала, пасля задання на адпачынак у якую-небудзь вёсачку. Перад імі вымушаныя былі прагінацца ўсе, ад малога да старога. Уся вёска павінна была зносіць пачастункі – гарэлку, закусь. А на “дэсерт”, як правіла, жанчыны ды дзяўчаты. А паспрабуй селяніну штосьці ім пярэчыць, могуць тут жа на месцы як фашысцкага агента расстраляць.

Вельмі частымі “гасцямі” на падобных “адпачынках” былі то камандзір брыгады Барыс Лунёў, то асабіст Іван Белік. Гулялі кожны раз да той пары, пакуль не з'яўляліся паліцаі, што і прывяло да першай крывавай трагедыі ў Пляшчанах.

### Падзеі ў Пляшчанах

Па словах Аляксандры Мікалаеўны, неяк напрыканцы восені 1942 года ў Пляшчаны да Дзмітрыя і Варвары Жукоўскіх прыйшоў з Мінска сваяк, варварынай роднай сястры Юлькі мужык, Ігнат. Ён меў дазвол мінскай камендатуры на вольнае перамяшчэнне. А атрымаць такую прывілею яму дапамагла яго родная дачка Вера, якая, добра валодаючы нямецкай моваю, працавала ў немцаў перакладчыцай. Толькі засталося таямніцай па сённяшні дзень, Вера сама пайшла працаваць да немцаў ці была накіраваная мінскім падполлем. Але як бы там ні было, ёй стала вядома, што ў фашыстаў распачынаецца паляванне на мінскае падполле. Немцы штодня атрымоўвалі ад сваіх інфарматараў падрабязныя звесткі і адрасы падпольшчыкаў. У сувязі з гэтым Вера накіравала свайго бацьку да родных у Пляшчаны, каб тыя дапамаглі яму сустрэцца хоць з якімі-небудзь партызанамі, каб перадаць звесткі пра разгаданых, але пакуль што не арыштаваных мінскіх падпольшчыкаў. Толькі апошнім часам партызаны ў вёсцы штосьці не з'яўляліся.

Жукоўскі параіў швагру схадзіць у Жабічы ды наведаць ягоных сваякоў. І паспрабаваць з іх дапамогай наладзіць сувязь з партызанамі Лунёва, якія вельмі часта наведвалі Пляшчаны. Так і зрабілі. Ігнат, схадзіўшы ў Жабічы, зноў вярнуўся назад да Жукоўскіх, бо наладзіць сувязь з партызанамі не атрымалася. Ён быў вымушаны застацца ў швагра на нявызначаны час.

Дзесьці праз тыдзень, бліжэй да абеду, у вёсцы з'явілася невялікая групоўка лунёўцаў. Гэта ўся арава цалкам завалілася ў хату да Фёдара Булаха і як поўныя гаспадары загадалі накрываць стол. У такім выпадку ўсе ведалі, што трэба было рабіць. Старэйшыя заставаліся хто ў хаце, а хто на падворку на варце. Дзеці разбягаліся па вёсцы, каб сабраць пажыткі для такіх гасцей. Усе вяскоўцы давалі, што маглі, бо добра ведалі, што дрэнны прыём “абаронцаў” для вяскоўцаў дабром не скончыцца. Гарэлкі не шкадавалі, частавалі ад “душы”, каб хутчэй паснулі.

Ігнат, даведаўшыся пра партызан, пайшоў да Булаха, на сустрэчу з імі. Калі Ігнат зайшоў у хату, госці былі ўжо добра захмялелыя. Да Ігнатавых слоў аднесліся з недаверам. І няведома, чым бы скончылася тая сустрэча, калі б гаспадар хаты не падняў трывогу, што да вёскі ідуць паліцэйскія.

Лунёўцы павыскоквалі на вуліцу і заляглі ўздоўж паркана, прама ў двары Булахаў. Дзед Аляксандры Мікалаеўны на каленях прасіў партызан не падымаць страляніну ў двары, але ўсё дарэмна. Іх камандзір даў загад страляць па паліцэйскіх, якія ішлі з боку Карпавічаў на Пляшчаны. Пасля першых стрэлаў быў забіты адзін паліцэйскі, а астатнія чацвёра адразу ж заляглі.

Пастраляўшы з хвілінку, “госці” даліся наўцёкі ў бок лесу, Заціша. А паліцэйскія, упэўніўшыся, што бяспека мінавала, рушылі на Хаценчыцы, пакінуўшы свайго забітага на полі.

Для Пляшчанаў тая перастрэлка і забіты паліцэйскі вельмі дорага абышліся. У гэты ж дзень бліжэй да вечара лунёўцы вярнуліся ў вёску, але ўжо ў большай колькасці і ўзначаленыя вядомым асабістам Белікам. Яны адразу ж пачалі высвятляць, хто на іх наклікаў паліцэйскіх.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

## 24 САКАВІКА

**1942 год.** Памёр у перасыльным пункце Аткарск Саратаўскай вобласці **Антон Луцкевіч** (1884-1942), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, літаратурны крытык, гісторык, лінгвіст, выдавец.

**1942 год.** У савецкім канцлагеры на лесапавале загінуў (паводле іншай версіі быў расстраляны) **Сяргей Ракіта** (сапр. Сяргей Законнікаў, 1909 –1942), беларускі паэт.

## 25 САКАВІКА

**1717 год.** Нарадзіўся **Альбрыхт Радзівіл**, дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага. Памёр пасля 1790 года.

**1937 год.** У Вільні памёр **Зыгмунт Нагродскі**, беларускі паэт і культурны дзеяч. Нарадзіўся ў вёсцы Зулова Свянцянскага павета Віленскай губерні, цяпер Літва, у 1866 годзе. Двор у вёсцы Зулова належаў двараніну Юзафу Вінцэнту Пілсудскаму (1833 – 1902), які быў бацькам Юзафа Пілсудскага (1867 – 1935). Праводзіў культурна-асветную работу сярод віленскіх рамеснікаў, прапагандаваў творы беларускіх пісьменнікаў, у т.л. Францішка Багушэвіча, з якім сябраваў. Нелегальна распаўсюджваў “Дудуку беларускую” Багушэвіча, у 1896 годзе перавыдаў гэты зборнік. Матэрыяльна падтрымліваў выданне “Нашай нівы”. У 1920-я гады на ўласныя сродкі заснаваў “Народнае выдавецтва”, якое выпускала танныя кніжкі для масавага чытання, у т.л. “Гутаркі і песенькі” Уладзіслава Сыракомлі (1929). Аўтар напісанай на беларускім фальклорна-этнаграфічным матэрыяле п'есы “На каляды” . Аўтар успамінаў пра Францішка Багушэвіча. Творы яго зберагаюцца ў Цэнтральнай бібліятэцы АН Літвы і Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

## 28 САКАВІКА

**1985 год.** У французскім горадзе Сэн Поль дэ Ванс памёр выдатны беларускі і французскі мастак **Марк Шагал**.

## 30 САКАВІКА

**1940 год.** Нарадзіўся **Аляксей Марачкін**, беларускі жывапісец, педагог. Пачынальнік нацыянальнага культурнага адраджэння ў найноўшай гісторыі Беларусі. Стварыў партрэты выдатных дзеячаў беларускай гісторыі і культуры: “Цётка” (1976), “Пачатак. Францыск Скарына” (1978), “Вераніка і Максім” (1981), “Рагнеда” (1982), “Сымон Будны” (1989), “Канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега” (1994), “Мікола Ермаловіч” (1994), іншыя.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Да музычнага брэйн-рынга рыхтаваліся некалькі месяцаў

МАЛАДЗЕЧНА

Першая адкрытая рэгіянальная музычна-тэарэтычная гульня “Брэйн-рынг-2017” прайшла ў Маладзечанскай дзіцячай школе мастацтваў 17 сакавіка.

На турнір сабралася шэсць камандаў: дзве з Маладзечна, тры з раённых музычных школ і адна са школы мастацтваў горада Мінска. Удзельнікамі гульні сталі вучні 5-6 класаў па сямігадовым навучанні.

Перад першым турам правялі размінку, дзе неабходна было адказаць на разнастайныя пытанні па сальфеджыа і музычнай літаратуры, адгадаць творы рускіх і замежных кампазітараў 17-20 стагоддзяў. Кола пытанняў было вельмі шырокае, таму вучням прыйшлося добра падумаць і прымяніць веды дадатковага матэрыялу. З самага пачатку ўдзельнікі былі скаваныя, але затым азарт падхапіў іх, і яны пачалі працаваць зладжана.

– Спадабалася творчая атмасфера. Самым складаным для дзяцей заданнем было выправіць памылкі ў акордах і інтэрвалах. Але, нягледзячы на цяжкасці, усе былі зацікаўленыя і настроеныя на перамогу. Рыхтаваліся да гэтага мерапрыемства некалькі месяцаў. Праслухалі больш за 100 нумароў па музычнай літаратуры. Вывучалі біяграфіі кампазітараў 20 стагоддзя, – падзялілася ўражаннямі настаўніца Красненскай школы мастацтваў **Валянціна Гурыновіч**.

Прадстаўнікі гэтай установы занялі другое месца. А пераможцамі брэйн-рынга стала каманда “Магутная кучка” з Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў. Удзельнікі гульні былі ўзнагароджаныя дыпломамі, падарункамі і прызамі. Выкладчыкаў таксама не забыліся: іх адзначылі дыпломамі за прафесіяналізм і педагагічнае майстэрства.

Па заканчэнні гульні прайшоў канцэрт навучэнцаў з абмежаванымі магчымасцямі, якіх публіка прыняла вельмі цёпла.

**Трафім КАНАПЕЛЬКА, навучэнец школы журналістыкі “Маладзік”.**

● ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

### “Замовіў мазь – паклалі ў дзевяць банак”. Чытач абураецца невялікай тарай у аптэках

МАЛАДЗЕЧНА

У рэдакцыю звярнуўся маладзечанец **Аляксандр Дралоў**. Яму выпісалі рэцэпт, каб зрабіць мазь аб'ёмам 300 грамаў.

Аднак, прыйшоўшы ў аптэку, якая знаходзіцца па вуліцы Міру, 2-а, яму сказалі, што тары такога аб'ёму няма ў аптэцы, могуць прапанаваць зрабіць мазь у дзвюх упакоўках.

Мужчына ўзрушаны: “Чаму я павінны цягацца з маленькімі ўпакоўкамі? Неяк далі ажно дзевяць. Чаму не замаўляюць вялікую тару?”

Чытач расказаў, што раней ён прыходзіў са сваёй тарай, у якой аддавалі лекі.

Загадчыца цэнтральнай раённай аптэкі №198 Маладзечанскага раёна **Валянціна Журомская** адзначыла, што тара ў аптэку закупляецца згодна з рэестрам медыцынскай тэхнікі і медыцынскіх вырабаў, зарэгістраваных у Беларусі. Самы вялікі аб'ём медыцынскага посуду для мазяў – 250 мілілітраў.

Гатовыя лекі фармацэўты могуць аддаваць толькі ў аптэчным посудзе.

– У нас не часта замаўляюць лекі вялікага аб'ёму, – зазначыла спецыяліст. – Калі, напрыклад, прыйдзе пацыент з рэцэптам, у якім будзе прапісаная вага ў 500 грамаў, будзем фасаваць іх у некалькі ўпакавачак.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

### Ці залічваюць стаж працуючым пенсіянерам

З пытаннем аб правілах залічвання пенсіі звярнулася чытачка **Марыя** з Маладзечна:

“Пасля выхаду на пенсію я працую некалькі гадоў. Але бачу, што дадатковы стаж не ўплывае на пенсію, яе не пераразлічваюць у бок павелічэння. Магчыма, гэта нейкая памылка?”

У Маладзечанскім упраўленні па працы, занятасці і сацабароне занятасці адказалі, што памылкі няма.

Пенсія фарміруецца да яе прызначэння і выплаты. Таму для працуючых пенсіянераў пасляпенсійны перыяд працы залічваецца ў стаж толькі ў выпадку, калі яны не атрымліваюць пенсію.

Ёсць магчымасць выбіраць: ці атрымліваць заробак і пенсію без пераразліку стажу, ці атрымаць пенсію пазней, але большую.

**Аддзел інфармацыі.**

# Загадчыца дыспансернаг ў Маладзечне: “Каб захва трэба вельмі пастарацца




Фота Галіны СУДНІКОВІЧ.

Тамара Навіцкая працуе 41 год у медыцыне, 34 з іх фтызіятрам, 17 гадоў яна загадвае дыспансерным аддзяленнем Маладзечанскага тубдыспансера.

МАЛАДЗЕЧНА

**24 сакавіка – Сусветны дзень барацьбы з туберкулёзам. Актуальнасць дадзенай праблемы пакуль не змяншаецца. Напярэдадні мы сустрэліся з загадчыцай дыспансернага аддзялення Маладзечанскага тубдыспансера Тамарай Навіцкай.**

Тамара Уладзіміраўна 41 год у медыцыне, 34 з іх працуе фтызіятрам. Мара стаць доктарам нарадзілася ў дзяцінстве. Па яе словах, бацькі рыхтавалі да гэтай спецыяльнасці.

– Мой бацька часта ездзіў на рыбалку, паляванне, – узгадвае жанчына. – Пасля трэба было пачысціць рыбу, спарадкаваць упаляванае. Гэты занятак заўсёды давяралі мне. Бацька пры гэтым гаварыў: “Ты ж будучы доктар, таму павінна ведаць, што творыцца ўнутры”. Разбірала і дзікоў, і ласёў. Расказваю знаёмым, ніхто не верыць.

Школу заканчвала выдатніцай, з адной чацвёркай у атэстаце. Вырашыла паступаць у медыцынскі.

– Мне хацелася быць хірургам, – расказвае Тамара Уладзіміраўна. – Прахадныя балы былі вялікія, шмат выпускнікоў з залатымі медалямі. Бацька пачаў пераконваць, што лепш паспрабаваць на педыятрычны, з дзецьмі будзеш працаваць. Вельмі ўдзячная, што так атрымалася, ніколі не пашкадавала аб выбранай спецыяльнасці.

#### Калі ў доме пахне курыцай, Тамара на дзяжурстве

Спачатку жанчына працавала ў радзільні ў аддзяленні мікрапедыятрыі, дзяжурствы прыпадалі і на ноч. Аднак з дваімі маленькімі дзецьмі гэта складана.

– Перад тым, як ісці на дзяжурства, заўсёды гатавала курыцу, купляла хлеб, каб было што дома паесці. Нават суседзі смяяліся: “Ну, усё, пахне курыцай, Тамара на дзяжурстве”, – успамінае жанчына. – Курыцу ўзгадвалі і дочкі, калі выраслі. Ні адна не пайшла ў медыцыну, бо гэта сфера асацыявалася са смакам і пахам курыцы, якая надакучыла, і тым, што мамы часта няма дома.

Дзеля сям'і жанчына вырашыла памяняць спецыяльнасць, аднак медыцыну не кінула, стала працаваць фтызіятрам.

**– Пасля таго, як атрымала першы заробак, муж вельмі здзівіўся – у медыцыне можна зарабляць, – усміхаецца Тамара Навіцкая.**

**– Атрымала ўдвая больш за тое, што плацілі ў радзільні. Але і дзяжурствы не кінула, работа з немаўлятамі падабалася.**

#### Пацыенты з крымінальным мінулым называлі Маць

Як адзначае спецыяліст, амаль усе пацыенты, калі даведваюцца пра хваробу, панікуюць, апраўдваюцца, адчуваюць сябе няёмка, бо лічаць, што захварэць на туберкулёз сорамна.

– Першы час нават прыслухоўваюцца, як размаўляе доктар, прыглядаюцца, як адносіцца, – дзеліцца доследам Тамара Уладзіміраўна. – Сярод маіх пацыентаў былі з крымінальным мінулым. Калі бачаць, што глядзіш на іх звысоку, робяць выгляд, быццам не бачаць, адмаўляюцца прытрымлівацца лячэння,

# ...а аддзялення
# ...рэць на туберкулёз,
# ...ц”




замацоўваюць за спецыялістам мянушку. Так аднаго доктара, які раней працаваў, празвалі Кабетай, ніколі па імені не называлі. Мяне клікалі Маць. Неяк узрушана гавару: “Якая я табе маць, мы аднаго ўзросту?”

**А ён мне: “Я вас так паважаю, што вы для мяне, як маці. Не злуйся, Мацьˮ.**

Спецыяліст лічыць, што галоўнае напачатку растлумачыць, што гэта за хвароба, як лячыць, якога ладу жыцця прытрымлівацца. Людзі спакайнеюць, тады і лячэнне больш плённае.

– Многім трэба набрацца смеласці, каб прыйсці ў дыспансер, – расказвае доктар. – Калі прыходзяць, бачаць, што не адны, больш камфортна сябе адчуваюць.

### Гэта флюараграфія, а не сямейнае фота

Некаторыя пацыенты, бачачы Тамару Уладзіміраўну на вуліцы, не вітаюцца. Пасля тлумачаць: “Вас жа ўвесь горад ведае, павітаюся і ўсе падумаюць, што хворы!”

Спецыяліст лічыць, што на ўсялякай рабоце варта мець пачуццё гумару, тады любую праблему можна вырашыць працай.

Аднойчы каля кабінета флюарографа ўзнікла перапалка: “Чаму не запускаюць па некалькі чалавек”. Выйшаў доктар і здзіўлена спытаўся: “А як вы гэта ўяўляеце? Гэта ж не сямейнае фота!” Падумаўшы, пацыенты спакойна чакалі каля кабінета.

### Каб захварэць на туберкулёз, трэба вельмі пастарацца

Такога меркавання прытрымліваецца загадчыца дыспансернага аддзялення Маладзечанскага тубдыспансера. З носьбітам хваробы трэба кантактаваць не менш за восем гадзін у закрытым памяшканні. Калі вы, напрыклад, працуеце на вуліцы, заразіцца немагчыма.

У кожнага, хто знаходзіцца ў памяшканні, павінны быць зніжаны імунітэт. Калі вы ў гэты час хворы, гэта можа спрыяць хваробе, бо ўсе рэсурсы арганізма накіраваныя на тое, каб змагацца з вірусам, які ўжо падхапілі.

Аднак такія выпадковасці здараюцца надзвычай рэдка.

### Як зламала жыццё 15-гадоваму хлопцу

Доктар адзначае, што ўжо пяць гадоў не было выяўлена захворванняў на туберкулёз сярод дзяцей. А вось сярод падлеткаў у 2015 годзе знайшлі двух хворых, гэта былі 15-гадовыя хлопцы. Пры гэтым ні ў аднаго не знайшлі кантактаў з заражэннем.

– Адзін з хлопчыкаў быў без бацькоў, яго хацелі ўсынавіць італьянцы, – з болем узгадвае Тамара Навіцкая. – Адправілі юнака праходзіць флюараграфію – нічога не паказала. Я для надзейнасці вырашыла зрабіць яшчэ дыяскінтэст, які і дыягнаставаў інфіцыраванасць. Калі б не гэты тэст, дзіця б усынавілі, толькі праз некаторы час хвароба б праявілася. Атрымалася, што зламала жыццё 15-гадоваму хлопцу.

### Як дыягнастуюць туберкулёз

Да сямі гадоў дзецям робяць манту, з васьмі – дыяскінтэст, дарослым – флюараграфію.

– Дыяскінтэст – сучасны прэпарат для знаходжання латэнтных формаў туберкулёзу, – дзеліцца спецыяліст. – У адрозненне ад манту, дапамагае з дакладнасцю да 95% вызначыць, ці інфіцыраваны чалавек. Бактэрыі можна знайсці ў арганізме на стадыі, калі захворванне сябе ніяк не праяўляе.

Флюараграфію спецыяліст раіць праходзіць адзін раз на год. Пры гэтым не варта баяцца апраменьвання, бо сучасныя пульмасканы даюць невялікае – 0,015 мілізіверта. Яго можна параўнаць з тым, што вы адзін дзень правялі на сонцы. Ад рэнтгенаўскага здымака атрымліваеш апраменьванне 0,18 мілізіверта.

### Лечацца праз відэазапісы

У Маладзечне тры чалавекі паспрабавалі на сабе новы спосаб лячэння, які рэалізуюць пры падтрымцы Сусветнай арганізацыі аховы здароўя і Чырвонага Крыжа, тэлевідэалячэнне.

Хворыя атрымалі смартфоны, на якія штодзень павінны запісваць відэа, як прымаюць лекі. Гэты спосаб дапамагае кожны дзень медыкам кантраляваць хворага, а пацыенту ў сваю чаргу не трэба хадзіць у дыспансер.

– Сярод тых, хто выкарыстоўвае гэты метад, дзве пенсіянеркі, – дзеліцца спецыяліст. – Напачатку яны вельмі хваляваліся, баяліся, што не асвояць тэлефон. Цяпер жа з пачуццём гумару запісваюць відэа. Пасля лячэння тэлефон застаецца ў падарунак.

Аднак доктар лічыць, што за грошы, патрачаныя на тэлефоны, можна было б хворым купіць прэпараты. Бо вельмі складана для чалавека, які не працуе, знаходзіцца на лячэнні, выдаткаваць у дзень 90 капеек, каб прыехаць па лекі ў дыспансер. У месяц набягае кругленькая сума.

– Прэпараты, прызначаныя для лячэння, вельмі дарагія, – тлумачыць доктар. – Бываюць супрацьпаказанні, якія карэктуе доктар, таму ўвесь час пацыент знаходзіцца пад назіраннем.

**Даведка “РГ”.**
Туберкулёз – хвароба, якую выклікае бактэрыя Mycobacterium, якую адкрыў Роберт Кох у 1882 годзе. Менавіта за гэта дасягненне быў узнагароджаны Нобелеўскай прэміяй у вобласці фізіялогіі і медыцыны. Часцей за ўсё хварэюць на туберкулёз лёгкіх, бо асноўны спосаб перадачы – паветраны. Падхапіўшы першы раз мікабактэрыю, чалавек лічыцца інфіцыраваным. Аднак не трэба блытаць з хваробай. Інфіцыраванасць – стан, пры якім мікабактэрыі знаходзяцца ў арганізме, аднак не выклікаюць хваробу. Хвароба наступае тады, калі мікабактэрыі пачалі некантралюема размнажацца, бо імунітэт з імі не спраўляецца. Пры гэтым на ранніх стадыях хвароба чалавека не выдзяляе мікабактэрыі ў знешняе асяроддзе. Адна з прычын туберкулёзу – недастатковая санітарная граматнасць насельніцтва.


Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

# Калі табе за 60: як бавяць час сябры маладзечанскага клуба “Мудры ўзрост”

МАЛАДЗЕЧНА

Нас каля дваццаці чалавек. Узрост розны: малодшым – каля 60, старэйшым – за 90.

Вось так, коратка ў лічбах, можна расказаць пра клуб “Мудры ўзрост”, які працуе пры Цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва ўжо некалькі год.

У кожнага з сяброў клуба за плячыма – доўгі працоўны шлях. Жыццё аўтара гэтых радкоў **Мікалая Ката** звязанае з калгасам “Маркава” на Маладзечаншчыне, дзе ён працаваў галоўным заатэхнікам.

**Ірына Стэльмах** – былая дырэктарка фабрыкі мастацкіх вырабаў, **Вера Кананові****ч** – кранаўшчыца завода металаканструкцый, **Надзея Старчык** і **Людміла Архіпенка** – інжынеры-тэхнологі маладзечанскіх заводаў.

**Людміла Кандрашкіна** працавала намеснікам дырэктара прадпрыемства “Аквадыў”. **Галіна Бажко** была начальнікам лабараторыі на нафтабазе, а **Іван Апанасевіч** працаваў станочнікам на гарадской мэблевай фабрыцы.

Амаль для ўсіх сяброў клуба Маладзечна – родны горад. Яны тут нарадзіліся, гадаваліся, стварылі сем’і, выхавалі дзяцей, а цяпер дапамагаюць гадаваць унукаў і праўнукаў.

Пасля шматгадовай працы ў нас, пенсіянераў, з’явілася шмат часу. Ад гэтага хтосьці можа ўпасці ў дэпрэсію. А іншыя скарыстоўваюць вольны час на ўнукаў, уласную гаспадарку, захапленні, на вывучэнне гісторыі роднага краю.

Разам з клубам “Мудры ўзрост” мы імкнёмся ўсюды пабываць, даведацца пра ўсё, што звязанае з Маладзечаншчынай і суседнімі раёнамі: пра цікавыя гістарычныя звесткі і знакамітых людзей.

Многім з нас запомнілася леташняе падарожжа на радзіму **Янкі Купалы** ў Вязынку. Там мы шмат даведаліся пра песняра і прыгадалі вершы і звесткі, якія вучылі пра паэта яшчэ ў школе.

Значная асоба для Маладзечаншчыны, Смаргоншчыны, Беларусі, а магчыма, і свету – **Міхал Клеафас Агінскі**. У гэтым мы ўпэўніліся на экскурсіі ў музеі ў Залессі на Смаргоншчыне.

Неяк нас запрасілі ў музей афганскай вайны ў школе №14. Экскурсію для сяброў нашага клуба зладзіў настаўнік і вайсковец **Ігар Арабей**.

Сярод сяброў нашага клуба таксама ёсць ветэран афганскай вайны – **Мікалай Чыркоў**. З яго ўдзелам мы правялі вечар памяці “Афганістан вачыма відавочцаў”. Мікалай паказаў фотаздымкі з часоў службы, падзяліўся перажытым, праспяваў “афганскія” песні.

Краязнаўчы музей у Маладзечне захапіў нас цікавымі экспанатамі. Не кожны музей у райцэнтры можа пахваліцца арыгінальнымі слуцкімі паясамі і ўпрыгажэннямі, якія належалі яшчэ дрыгавічам.

Цікава, што многія з нас хоць і жывуць у Маладзечне, першы раз наведалі краязнаўчы музей у горадзе толькі цяпер, у сталым узросце.

Некаторыя дзякуючы маладзечанскаму трэнеру **Аляксею Роўду** авалодалі карысным для здароўя скандынаўскай хадой.

Мы стараемся весці здаровы лад жыцця. У цёплы час ужо звыклымі для нас сталі турыстычныя паходы па рэгіёне. А прафесійную параду ад доктара мы можам атрымаць не толькі ў паліклініцы. Лекцыі з удзелам дактароў-спецыялістаў работнікі тэрытарыяльнага Цэнтра праводзяць часта.

Мы – актыўныя ўдзельнікі сустрэч з творчымі людзьмі горада. Заўсёды цікава паслухаць вершы ў выкананні маладзечанскіх паэтаў.

Запомнілася вясёлая вечарына з удзелам творцы з Засквічаў – **Віктарам Сыраквашам** і яго даўнім сябрам музыкантам-дырыжорам **Іванам Канановічам**. Разам яны зладзілі вялікі цікавы канцэрт.

А не так даўно мы былі на сустрэчы з пісьменніцай аўтаркай раманаў **Наталляй Батраковай**, якую ладзілі супрацоўнікі бібліятэкі “Верасок”.

Цяжкавата нам было адаптавацца летась да з’яўлення новых грошай. Для таго, каб мы адчувалі сябе з імі больш упэўнена, зладзілі сход па пытаннях дэнамінацыі. Перад намі выступала прадстаўнік банка, якая растлумачыла ўсе цяжкасці.

Безумоўна, для такой шырокай дзейнасці проста неабходны добры арганізатар. Гэта **Вольга Малашка**, – маладая жанчына, мама чацвярых дзяцей. Ёй яшчэ далёка да “мудрага ўзросту”, аднак яна добра разумее нас. Магчыма таму, што працуе псіхолагам у Цэнтры тэрытарыяльнага абслугоўвання.

**Мікалай КОТ,**
**сябар клуба**
**“Мудры ўзрост”.**

## На стадыёне 12 школы ў Маладзечне дзяцей можна вучыць... плаванню

МАЛАДЗЕЧНА

Фотаздымкі стадыёна, які пераўтвараецца ў басейн, даслаў у "Рэгіянальную газету" наш чытач **Ілля Сеннікаў**.

Да фотаздымкаў чытач дадаў ліст:

"Кожны год стадыён школы №12, а таксама стадыён, які належыць каледжу мастацтваў, ператвараецца ў вадаём, які высыхае вельмі доўга.

І нават пасля гэтага бегавая дарожка непрыдатная для заняткаў спортам, таму што яна пакрытая пластом чарназёму. У гэтым годзе па стадыёне праехала цяжкая тэхніка, якая пакінула пасля сябе вялікія каляіны, як на полі стадыёна, так і на бегавой дарожцы.

А стадыён неабходны не толькі для правядзення ўрокаў фізкультуры вучням школ. Там займаюцца спортам жыхары ўсяго раёна. А з гэтых жыхароў становіцца больш, бо ў мінулым годзе яшчэ пабудавалі пяць дамоў па вуліцы Снежнай. Ніякіх альтэрнатыўных пляцовак побач няма.

Паведаміце, калі ласка, паважаныя кіраўнікі раёна, ці знаёмыя вы са станам дадзенага спартыўнага аб'екта, які знаходзіцца каля школы №12? Ці будуць прымацца ў бліжэйшы час якія-небудзь меры для аднаўлення бегавой дарожкі стадыёна і поля? Ці магчымая ўстаноўка новых трэнажораў для заняткаў спортам на дадзеным стадыёне?".

Гэтыя пытанні мы накіравалі ў аддзел адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама.

Загадчык сектара спорту і турызму **Аляксандр Кавалёў** адказаў:

– Кожную вясну амаль на ўсіх школьных стадыёнах падобная сітуацыя, а не толькі на стадыёне 12-й школы. Пакуль заняткі фізкультуры ў школьнікаў праводзяцца выключна ў спартыўных залах. І калі школьнікі выйдуць на заняткі на вуліцу, а здарыцца гэта толькі праз месяц, вада на стадыёне высахне. Таму не бачу праблемы.

Што ж датычыцца таго, што мясцовыя жыхары таксама хочуць падтрымліваць здаровы лад жыцця, займаючыся на бліжэйшым да дома стадыёне, Аляксандр Кавалёў адказаў:

– Усе трэнажоры, што ёсць на школьных стадыёнах, прадугледжаныя выключна для дзяцей. Для дарослых у нас у горадзе ёсць выдатны гарадскі стадыён. Ён працуе без выходных і аж да цемры. А на школьных стадыёнах павінны займацца школьнікі.

**Наталля ТУР.**



Фота забяспечана Іллёй СЕННІКАВЫМ.

Стадыён 12 школы не толькі ператвараецца ў басейн, але яго папсавала і цяжкая тэхніка.

## Віталь Качаткоў выдае зборнік шахматных задач

МАЛАДЗЕЧНА

Музыкант, спявак, бізнесмен і майстар спорту міжнароднага класа па шахматах Віталь Качаткоў вырашыў далучыцца да шахматнай адукацыі ў Беларусі.

Маладзечанец рыхтуе да друку кнігу-рашалку для пачатковага навучання шахматам. Зборнік разлічаны на першы год навучання. Ён уключае каля 200 дыяграм з 400 матамі каралям у адзін ход.

Аўтар мяркуе, што падручнік будзе карысны дзецям і іх бацькам, якія засвойваюць гэту прамудрую гульню.

"Рэгіянальная газета" будзе праводзіць конкурсы для чытачоў-аматараў шахматаў, па выніках якіх можна будзе атрымаць падручнік у падарунак або бясплатны ўрок ад Віталя Качаткова.

**Аддзел інфармацыі.**

# Пасляваенны футбол у Маладзечне

**Маладзечанцы заўсёды ганарыліся сваёй моцнай футбольнай школай.**



Фотаздымак забяспечаны сям'ёй Юрыя АДЗІНЦОВА.

Маладзечанская каманда 50-х гадоў.

Ды і каманда магла пахваліцца сваімі дасягненнямі – перамогай у чэмпіянатах і ўдзелам у вышэйшай лізе.

А пачалося ўсё яшчэ ў 40-х гадах мінулага стагоддзя.

**Сяргей Гайковіч** расказвае пра першыя гады станаўлення футбольнай каманды з Маладзечна.

Бяда, якая напаткала нашы землі ў першай палове саракавых гадоў, змянілася радасцю вялікай Перамогі і смуткам ад чалавечых стратаў. Пасля разбуральнай вайны трэба было аднавіць народную гаспадарку. Пры гэтым неабходны быў адпачынак для душы. Для моладзі такім стаў футбол.

Гулялі ў Маладзечне на тым жа месцы, што і цяпер, выкарыстоўваючы добраўпарадкаваную "геляноўскую" паляну. Пра гэта напрыканцы 1990-х успамінаў ветэран каманды **Уладзімір Чарнышоў**. Ён быў лідарам гарадской дружыны, сваёй асобай цэментаваў яе склад. Будучы ў вельмі сталым узросце, тым не менш добра памятаў імёны і прозвішчы партнёраў па камандзе. Чалавекам, які выконваў у нас кіраўнічыя, адміністрацыйныя функцыі, стаў **Аляксандр Гарбылёў**. Кадравы ваенны, франтавы снайпер, у будучым адзін з кіраўнікоў мінскага "Дынама" з саюзнага чэмпіянату.

Саракавыя, пяцідзясятыя гады мінулага стагоддзя адметныя тым, што была Маладзечанская вобласць у складзе Беларускай ССР. Статыстычныя футбольныя дадзеныя таго часу падрыхтаваныя аматарам гэтай справы са сталіцы **Ігарам Драждзянюком** па заказе аўтара сённяшняга артыкула. Знойдзеная інфармацыя сведчыць, што розыгрыш абласнога Кубка праводзіўся, пачынаючы з 1946 года.

На працягу дзесяці гадоў запар кубкавым пераможцам станавілася каманда пад назвай "Дынама" (Маладзечна), якая мела адносіны да сілавых структур.

У 1956-м і 1957-м гадах першынстваваўла каманда з Валожына, а ў 1958-м і 1959-м гадах – проста каманда з Маладзечна.

На абласным узроўні спаборніцтва не спынялася. Уладальнік Кубка атрымліваў права пазмагацца за рэспубліканскі трафей.

У большасці сезонаў наш прадстаўнік спыняўся ўжо на першай стадыі ўсебеларускага розыгрышу. Натуральна, былі і прыемныя выключэнні.

**1948 год.** Дынамаўцам удалося перамагчы ў матчы 1/8 фіналу на выездзе ў Гродне мясцовы "Лакаматыў" з лікам 2:1. Потым у чвэрцьфінале сустракаліся дома з мінскім "Трактарам". Матч адбыўся ў прысутнасці прыкладна 1000-1500 гледачоў. Госці былі мацнейшыя, лік 3:2.

**1953 год.** Дынамаўцы перамаглі дома ў 1/8 фіналу каманду "Спартак" (Магілёў) з лікам 6:0. Праз тыдзень у чвэрцьфінале саступілі на выездзе мазырскаму "Будаўніку" з лікам 1:3.

**Што тычыцца правядзення рэгулярнага чэмпіянату БССР (у некаторыя сезоны – проста нерагулярнага спартакіяды), то ў архівах ёсць інфармацыя, пачынаючы з 1949 года.**

Цікава, што гэты сезон стаў паспяховым для маладзечанскага "Дынама". Спачатку каманда выйграла чэмпіянат сваёй вобласці. Потым, у сярэдзіне ліпеня, былі атрыманы тры перамогі на занальным турніры ў Магілёве над прадстаўнікамі вайсковай часці з Крычава, над віцебскім "Лакаматывам" і над полацкім "Спартаком". Нарэшце напрыканцы ліпеня адбыўся фінальны турнір чатырох камандаў у Мінску. Тут маладзечанцы ў выніковай табліцы саступілі гаспадарам з МТЗ і бабруйскаму "Спартаку", але перамаглі брэсцкае "Дынама". Гэта быў першы значны поспех нашага гарадскога футбола. Прызавое месца на рэспубліканскім узроўні здабылі такія гульцы, як варатары **Канстанцін Зацыркляны і Мікалай Маслаў**, палявыя **Вячаслаў Раўбо, Міхаіл Кочатаў, Васіль Лупіносаў, Яўген Багаслоўскі, Аляксандр Маслаў, Мікалай Жыўлакоў, Іван Артамонаў, Мікалай Скамарцоў, Міхаіл Карасёў**, гуляючыя трэнеры Уладзімір Чарнышоў і Аляксандр Гарбылёў.

**1950 год.** "Дынама" заняла другое месца з чатырох у камандна-занальным турніры (3 матчы) у Гомелі.

**1951 год.** "Дынама" заняла восьмае месца з дванаццаці камандаў у другой па ўзроўні групе (22 матчы).

**1952 год.** "Дынама" заняла дзявятае месца з дванаццаці камандаў у другой па ўзроўні групе (22 матчы).

**1953 год.** "Дынама" заняла восьмае месца з васьмі камандаў на занальным турніры (7 матчаў).

**1954 год.** Фінальны турнір другой па ўзроўні групы прайшоў без удзелу маладзечанцаў.

**1955 год.** Зборная вобласці заняла чацвертае месца з чатырох у камандна-занальным турніры (3 матчы) у Гродне.

**1956 год.** Зборная вобласці заняла дзявятае месца з дзевяці камандаў сярод абласцей (4 матчы).

**1957 год.** Зборная горада заняла шостае месца з шасці ў камандна-занальным турніры (10 матчаў).

**1958 год.** Зборная горада заняла пятае месца з пяці камандаў на занальным турніры (8 матчаў).

Чарговы поспех маладзечанскага футбола датаваны 1959-м годам. Зборная вобласці выйграла дамашні занальны турнір, перасягнуўшы сапернікаў з Гомельскай, Магілёўскай, Брэсцкай абласцей і каманду "Мінск-2". Потым на фінальным турніры ў сталіцы занялі прызавое трэцяе месца пасля "Мінска-1" і Гродзенскай вобласці, апярэдзілі Гомельскую вобласць. Гуляючы кіраўнік тагачаснага калектыву **Юры Адзінцоў** успамінаў такія падрабязнасці.

– Галоўным рэспубліканскім турнірам была спартакіяда сярод абласцей. Наша гарадская каманда стала чэмпіёнам Маладзечанскай вобласці. У шэрагу лепшых мясцовых гульцоў другой паловы 50-х можна назваць **Аркадзя Салагуба**, Уладзіміра Чарнышова, **Івана Траскоўскага** са Смаргоні.

Мне даверылі ўзначаліць абласную зборную. Касцяк яе складалі хлопцы-расіяне, якія служылі ў Паставах; самі прыехалі з Падмаскоўя, двое нават з Масквы. Правялі трэніровачныя зборы, некалькі кантрольных матчаў, падрыхтаваліся. Дома "зона" была. Дзве каманды мелі права выйсці з групы, але мы занялі нават першае месца. У фінальным турніры сталі трэцімі пасля "Мінска-1" і гродзенцаў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Празрыстая смала, якая выступае на ствалах хвойных дрэў у месцах іх пашкоджання.
3. Прозвішча арганізатара прытулку для жывёл у Вілейцы.
4. У Карэі іх сем: бясплоддзе, распуста, рэўнасць, злы язык, непачцівасць да бацькоў мужа, хвароба і балбатлівасць. Да чаго яны маглі прывесці гаспадыню?
6. Рынак, на якім канкурэнцыя адбываецца толькі паміж невялікай колькасцю фірм, якія выціснулі астатніх супернікаў.
7. Здабытак ад памнажэння якога-небудзь ліку на самога сябе.
13. Чутка пра каго-небудзь.
14. Беларускі пісьменнік, аўтар цытаты "Порахам чалавека не выхаваеш".
16. Абламаныя сухія галіны дрэў.
17. Злодзей, вузкаспецыялізаваны на конях.
18. У гэтым населеным пункце рэгіёна ёсць цудадзейная рэліквія. А сама назва паселішча пераклікаецца з прафесіяй будаўніка.
19. Планета Сонечнай сістэмы, на якой астраномы назіраюць палярныя ззянні ў тысячу разоў ярчэйшыя, чым на Зямлі.
22. Сталіца Замбіі.
24. Парася ва ўзросце ад 4 да 8-10 месяцаў.
26. У мінулым годзе.
29. Імем гэтага персанажа названая тэорыя захавання відаў. Крытэрый каштоўнасці – існаванне самога віда з пасылам, што знішчэнне біяразнастайнасці шкоднае.
30. Паводле майстроў кітайскіх баявых мастацтваў, бойка – для дурняў, для разумных – перамога. А што для мудрых?
31. Сушаныя ягады вінаграду.
32. У старажытнагрэчаскай міфалогіі дзяўчына, створаная Гефестам з зямлі і вады, каб прыносіць людзям хваробы і зло як пакаранне за ўчынак Праметэя.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Што ў канцы кожнага квартала здае бухгалтар.
5. Пакрыты мохам.
8. Гальскія жрацы знайшлі выдатны спосаб хуткай мабілізацыі ў выпадку нечаканай вайны. Для гэтага яны прыносілі ў ахвяру толькі аднаго чалавека. Якога?
9. Зуб, які знаходзіцца непасрэдна за разцамі. У некаторых жывёл выступае з рота.
10. У студню ваду не ліюць, а ў лес ... не вязуць.
11. Не тутэйшы.
12. Злёгку пажаўцелы.
15. Пакой для работы ці заняткаў.
17. Жанчына, якая ўсё робіць марудна.
20. Расліна сямейства гарбузовых з вялікімі салодкімі пладамі.
21. Вышэйшае званне ў рыцарскім ордэне.
23. Па-арабску – "чытанне".
25. Населены пункт рэгіёна, у якім размешчаная скульптура святога Міхаіла Арханёла.
27. Гэта мора на мяжы Узбекістана і Казахстана – сумны прыклад экалагічнай катастрофы. Ад 1960-х гадоў узровень вады пачаў імкліва зніжацца, у тым ліку праз забор вады для арашэння. У 1989-м мора распалася на два ізаляваныя вадаёмы. У 2014 годзе ўсходняя частка аднаго з іх цалкам высахла.
28. Самы вялікі запаведнік на планеце.
30. Чалавеканенавіснік.
33. Заходні вецер і род пасцілы.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №11. Па гарызанталі.** 1. Банкрут. 4. Камю 5. Энтамолаг. 7. Макарона. 12. Справавод. 14. Вершаплёт. 16. Танна. 17. Князева. 19. Камін. 20. Зубы. 22. Сатрап. 24. Дзірван. 27. Чарапаха. 28. Жакей. 29. Штогод. 31. Млечны. 32. Грошы. 34. Гліптыка. 35. Гільяціна. 36. Арэапаг.

**Па вертыкалі.** 2. Бездань. 3. Гурман. 6. Люстэрка. 8. Кляўза. 9. Найгрыш. 10. Венера. 11. Калёквіум. 13. Соль. 15. Дакоскі. 18. Лазер. 20. Задавака. 21. Побач. 23. Аватар. 24. Джакарта. 25. Зруб. 26. Інжыр. 30. Рафаэль. 31. Марка. 33. Адэлаіда.

## ГАРАСКОП 24-30 САКАВІКА



**АВЕН.** Вы будзеце імкнуцца палепшыць свой матэрыяльны стан, што адаб'ецца на вашых адносінах да навакольных. Вы станеце агрэсіўнымі і будзеце шчыра здзіўляцца, чаму вас не разумеюць і не падзяляюць вашай пазіцыі. Вы дасягняце пастаўленых мэт, праўда, потым акажацца, што не гэта вам трэба было на самой справе.



**ЦЯЛЕЦ.** "Чаго хачу – не знаю, што знаю – не хачу" – ваш дэвіз на гэтыя дні. Вы будзеце актыўныя, пастаянна за нешта брацца. Пачынаць новыя справы, кідаць і пачынаць зноў, бо наўкола вас столькі ўсяго цікавага, столькі трэба паспець зрабіць, даведацца, проста не хапае сіл і часу.



**БЛІЗНЯТЫ.** Не ўзвальвайце на сябе шмат работы, не спрабуйце перарабіць усе справы, вырашыць пытанні, бо тады, акрамя фізічнай стомленасці, вы нічога не адчуеце. Навучыцеся размяркоўваць справы і атрымліваць асалоду ад жыцця.



**РАК.** Вам прыйдзецца зрабіць важны выбар. Вы даўно чакалі нейкай прапановы, і хутка вы яе атрымаеце. Рашыцца будзе не проста, але парада, атрыманая ад сяброў, дазволіць вызначыцца. Заведзеныя знаёмствы ў гэтыя дні будуць мець важнае значэнне ў вашым жыцці.



**ЛЕЎ.** Вы поўныя аптымізму і гатовыя рабіць нешта новае. Не адмаўляйце сабе ў гэтым задавальненні. Важна, каб вашы справы і ўчынкі былі накіраваныя на стварэнне, бо тады і ўдача будзе гарантаваная.



**ДЗЕВА.** Перамены ва ўласным жыцці. Устрымайцеся ад необдуманых высноў і паспешных рашэнняў. Сачыце за тым, каб вашы жаданні не ішлі ўразрэз з агульнасямейнымі мэтамі. Не ўлазьце ў рызыкоўныя мерапрыемствы ў надзеі хутка разбагацець. Лепш падумайце, як распарадзіцца тымі грашыма, што ў вас ёсць.



**ШАЛІ.** У вас на гарызонце – перамены. Мяняецца не толькі ваша жыццё, колькі вашы адносіны да яго. Вас чакае энергетычны ўздым, які забяспечыць вам добры настрой. Час спрыяльны для рамонтных спраў.



**СКАРПІЁН.** Вы будзеце на вышыні, таму пастарайцеся кожны дзень выкарыстаць па максімуме. Яшчэ вы станеце добрым дарадчыкам, сябрам проста неабходная будзе ваша парада.



**СТРАЛЕЦ.** Правядзіце нечаканы эксперымент са сваім гардэробам. Нешта выкіньце ці аддайце, нешта новае набудзьце. Паспрабуйце скамбінаваць рэчы, якія вы ніколі раней не рашаліся надзець разам. У вас адчуецца прыліў сіл і бадзёрасці.



**КАЗЯРОГ.** Любыя адносіны – гэта кампраміс. І цяпер вы гэта добра адчуеце. Калі не разгубіцеся і скарыстаецеся момантам, то будзеце ўзнагароджаныя з лішкам, і тады жыццё зайграе новымі яркімі фарбамі.



**ВАДАЛЕЙ.** У вырашэнні любога пытання прыслухоўвайцеся да свайго сэрца, умейце пачуць, што "кажа" інтуіцыя, развівайце яе, і тады ў вас многія пытанні вырашацца самі па сабе.



Вам часцей трэба прыслухоўвацца да свайго ўнутранага голасу, ён у гэтыя дні будзе асабліва моцны і праўдзівы. А вось парады навакольных будуць якраз мець мала карысці і ніяк не звязаныя з вашымі сапраўднымі імкненнямі і жаданнямі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | | 4 | | | | | 7 | |
| | 7 | 6 | | 9 | | | | |
| | 1 | | | | 8 | | | 6 |
| | 9 | | | | 4 | | 8 | 3 |
| | | | 5 | | 3 | | | |
| 7 | 8 | | 9 | | | | 4 | |
| 2 | | | 8 | | | | 6 | |
| | | | | 6 | | 2 | 9 | |
| | 6 | | | | | 1 | | 4 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 2 | 4 | 6 | 3 | 1 | 9 | 7 | 5 |
| 5 | 7 | 6 | 4 | 9 | 2 | 8 | 3 | 1 |
| 3 | 1 | 9 | 7 | 5 | 8 | 4 | 2 | 6 |
| 1 | 9 | 5 | 2 | 7 | 4 | 6 | 8 | 3 |
| 6 | 4 | 2 | 5 | 8 | 3 | 7 | 1 | 9 |
| 7 | 8 | 3 | 9 | 1 | 6 | 5 | 4 | 2 |
| 2 | 5 | 1 | 8 | 4 | 9 | 3 | 6 | 7 |
| 4 | 3 | 7 | 1 | 6 | 5 | 2 | 9 | 8 |
| 9 | 6 | 8 | 3 | 2 | 7 | 1 | 5 | 4 |

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 25 сакавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +3 / +6 | | -1 / +5 | | +1 / +4 | | +2 / +8 | |
| | 745 | ↙ 6 | 747 | → 5 | 747 | ↓ 3 | 743 | → 7 |
| Вільня | +3 / +9 | | -1 / +3 | | +1 / +6 | | +3 / +8 | |
| | 755 | ↓ 5 | 755 | → 4 | 757 | ↗ 2 | 752 | → 6 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне


Усход 7.00
Захад 19.36
Даўжыня дня 12.36


Усход 6.06
Захад 16.11
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -19,1 °C у 2001 годзе
Максімальная тэмпература +16,5 °C у 2014 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 17 мм у 2008 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- 11-гадовы хакеіст з Маладзечна трэніроўкі не прапускае нават тады, калі яны пачынаюцца ў 6 раніцы. Матывуе гэта выразам: "У слове каманда няма літары Я". Размову с маленькім, але ўжо па-свойму знакамітым хакеістам чытайце ў "РГ" праз тыдзень.



● ПРОСТА АНЕКДОТ

Навіна на гарадскім сайце: "На дарогі вобласці наносяць разметку".
Каментар: "Няхай бы лепш на дарогі вобласці нанеслі асфальт".

***

У маршрутцы:
– Бабуля, я даеду да цэнтра?
– Не, сынок!
Пасажыр ускоквае з месца і выходзіць з аўтобуса.
Бабуля садзіцца на яго месца:
– А я даеду!

***

– Ты чым займаешся?
– Людзей дастаю.
– А яны?
– Яны крычаць.
– А па мордзе яшчэ не білі?
– Не пакуль. Я акушэр у раддоме.

***

Калі побач з вамі адбываецца вывяржэнне вулкана і вам ужо позна ўцякаць, то знерухомце ў незразумелай позе: зламайце мозг археолагам.

***

Жонка піша мужу смс: "Ты ў мяне самы лепшы!"
Муж піша адказ: "П'еш або параўноўваеш?"

***

– Мама, а цябе ў дзіцячы садок не возьмуць?
– Чаму?
– Ты на гаршчок не змесцішся?

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

## Што асабіста для вас з'яўляецца сімвалам Вілейшчыны:



**Дар'я Яновіч, вучаніца:**
– Вілейскае вадасховішча. Яго ведаюць у раёне і краіне. З-за мяжы прыязджаюць сюды адпачываць.



**Наталля Акуліч, статыст:**
– Шмат такіх сімвалаў. Вадасховішча. Фантаны на вілейскай плошчы. Буслянка пры ўездзе ў Вілейку.



**Андрэй Паўловіч, будаўнік:**
– Музей Першай сусветнай вайны ў Заброддзі. Я шмат дзе быў, але падобнага нідзе не бачыў.



**Аксана Максімовіч, педагог:**
– Скульптура дзяўчыны Вілляны ля кніжнага магазіна. Менавіта з ёй звязаная прыгожая і шчымлівая легенда пра наш горад.



**Кацярына Макарэвіч, вучаніца:**
– Віллянін хутар. Прыгожае месца. Тут добрая дзіцячая пляцоўка, цудоўная прырода, рака. А на масцік праз яе маладыя вешаюць замочкі.



**Надзея Аўдзей, дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея:**
– Першае, што прыходзіць у галаву, – рака. Помнікі і будынкі ёсць прыгожыя, але іх стварылі людзі. А Вілія – гэта водная артэрыя, якая сама і пасяліла ля сябе людзей у старажытныя часы.



**Сяргей Паўлоўскі, начальнік аддзела культуры, ідэалогіі і па справах моладзі:**
– Завод "Зеніт". На яго карпусы заўсёды звяртаеш увагу, калі заязджаеш у горад. Я сам з Валожыншчыны. Добра памятаю, як мае аднакласнікі і старэйшыя хлопцы ехалі ў Вілейку працаваць на завод. Лічу, што завод адлюстроўвае час прамысловага пад'ёму горада. У многім дзякуючы гэтаму прадпрыемству Вілейка і набыла сённяшні статус.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№12 (1143) 24.03.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 276. Падпісана ў друк у 9.00 23.03.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 76-96-67, 74-71-00, 75-38-41** (рэклама), **(8029) 573-28-47, 676-84-20**
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.